

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

Віншуем з Калядамі і Новым годам!

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 02 (2904) Год LVII | Беласток, 8 студзеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Настаўніца Галіна Скепка і вучні за багата застаўленым сталом



У час перадсвяточнага мерапрыемства прысутны былі (злева) дырэктар Міраслаў Пяткевіч, айцец Марк Якімюк і настаўніцы Валянціна Андрасюк і Анна Лаеўская



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Куцця ў Чыжах

**У Комплексе школ у Чыжах здаўна вучні знаёмяцца з традыцыямі продкаў як на ўроках беларускай мовы, так і ў час школьных і класавых мерапрыемстваў. З дапамогай бацькоў і настаўнікаў ладзілі „Куццю”, „Шчодры вечар”, ці „Масленіцу”. Чыжоўская школа вылучаецца вельмі высокім паказчыкам прысутнасці вучняў на занятках беларускай мовы. Штогод звыш 90% дзетак і моладзі ходзіць на ўрокі роднай мовы, на якіх прысутнічаюць не толькі праваслаўныя вучні, але таксама каталікі і прадстаўнікі іншых веравызнанняў. Сёлета гэты паказчык самы высокі, бо ўсе дзяўчаты і хлопцы падставовай школы і гімназіі ў Чыжах вучацца беларускай мове, аб чым з гордасцю паінфармаваў дырэктар Міраслаў Пяткевіч у час „Куцці”, якую 22 снежня наладзілі вучні шостага класа падставовай школы.**

— Раней арганізавалі мы ўсяшкольную „Куццю”, але калі актавы зал быў перароблены на класныя кабінеты, адышлі мы ад супольнага мерапрыемства. Цяпер вучні паасобных класаў ладзяць свае перадкалядныя сустрэчы разам са сваімі выхавацелямі, — сказаў дырэктар Міраслаў Пяткевіч.

Выхавацелькай шостага класа з’яўляецца настаўніца беларускай мовы Анна Лаеўская. Ініцыятыва наладзіць перадсвяточную сустрэчу выйшла ад вучняў, а з дапамогай прыйшлі настаўніцы — беларускай мовы Валянціна Андрасюк і Божага закону Магдалена Заброцкая ды бацькі, якія дапамаглі багата заставіць стол. Прысутны ў час „Куцці” вікарны святар Чыжоўскага прыхода айцец Марк Якімюк нават крыху пакрытыкаваў багацце харчоў, патлумачыўшы, што стравы падрыхтаваныя з малака, яек ці нават рыб не супадаюць з праваслаўнай традыцыяй куцці, калі павінны спажывацца толькі стравы раслліннага паходжання. Удакладніў ён таксама, што на выгляд цяперашняй перадкалядный вячэры вялікае ўздзеянне мела каталіцкая традыцыя.

— Не нашай беларускай і праваслаўнай традыцыяй з’яўляецца неэкалагічная мода прыбіраць ёлкі, якая прыйшла да нас з Захаду і спрычыняецца да масавага высякання елак. Гэта шкодзіць акружаючаму асяроддзю. Калісь жа ставілі ў нас у час перадсвяточнай вячэры ў кутку хаты сноп збожжа, — гаварыў у час спаткання айцец Марк Якімюк. — Яшчэ горшая традыцыя прапагандавання продажу прадуктаў перад святамі, гаворачы, што падарункі прыносіць святы Мікалай, бо ж сапраўдны святцель Мікалай, мошчы якога пакояцца ў італьянскім горадзе Бары, не ездзіў на паўночных аленях. Добра, што ў нас для падарункаў быў прыдуманы Дзед Мароз. Аднак сённяшняя перадкалядная сустрэча патрэбная, каб навучыць дзетак як 6 студзеня, у час сапраўднай перадсвяточнай вячэры, сесці за стол, як спажываць просфару, як дзяліцца куццёй, што іншага можна есці і што можна спяваць.

Мерапрыемства пачалося з кароткіх уступных слоў настаўніц беларускай мовы, слоўна-музычнага мантажу — выказванняў вучняў наконт свята Нараджэння Хрыстовага, дэкламацыі беларускіх і польскіх вершаў ды спявання калядак, бо іх спяваць пачынаюць са святкавання Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы. Пазней была малітва перад спажываннем ежы, затым сабраныя ўзялі па кавалку просфары і елі смачныя стравы — галубцы, аладкі, варэнікі, рыбныя вырабы ці чырвоны боршч. Усё адбывалася ў прыгожа аздобленым, часткова на даўні лад, кабінеце беларускай мовы, які перад „Куццёй” быў упрыгожаны ёлкай і святочнымі матывамі, якія напаміналі аб надыходзячым Раждястве Хрыстовым, напрыклад, перадсвяточнай насценгазетай.

— Калі быў разабраны будынак драўлянай школы, была таксама спынена дзейнасць рэгіянальнай ізбы і мы з часткі даўніх экспанатаў зрабілі пастаянную экспазіцыю ў нашым класным зале, а частку большых экспанатаў схавалі, бо ж не памесцім усіх, — сказала настаўніца Анна Лаеўская, якая адзначыла, што на просьбу бацькоў рашыліся арганізаваць „Куццю” перад каталіцкімі святамі, бо некаторыя вучні будуць адзначаць першыя святы або святкаваць іх двойчы. Моцна хваліла яна таксама бацькоў за падрыхтаванне вельмі смачных страў.

— Мы жывем у нашай школе згодна і дружна, ствараючы сямейную атмасферу, — гаварыў дырэктар Міраслаў Пяткевіч, які пажадаў вучням і настаўнікам правесці Раждджаство Хрыстовае ў радасці і спакоі, знайсці маладым людзям пад ёлкай падарункі, аб якіх мараць.

Настаўнікі толькі дадалі, што іх вучням не хапае „Ёлак”, якія раней у Музеі і асяродку беларускай культуры ладзіла Наталля Герасімюк.

На пытанне, якія падарункі хацелі б атрымаць вучні ў час святаў Нараджэння Хрыстовага, амаль усе гаварылі, што мабільнік, хаця пазней аказалася, што ўсе ўжо карыстаюцца мабільнымі тэлефонамі, а за выключэннем адной дзяўчыны ў кожнага шасцікласніка ёсць ужо камп’ютар. Аднак відаць, што сучасная тэхніка не перашкаджае чыжоўскім маладым людзям вяртацца да сваіх традыцый і вучыцца беларускай мове.

— На занятках беларускай мовы стараемся зацікавіць вучняў як мага найбольш нашым прадметам. Старэйшым вучням арганізуем экскурсіі. Ездзілі мы ўжо ў Музей малой айчыны ў Студзіводах, плануем таксама паехаць у скансэн у Будах. Малодшым дзеткам ладзім конкурсы і гульні. Бывае, што трыццаць хвілін вядзем асноўны ўрок, а пасля пятнаццаць хвілін гуляем, размаўляючы пабеларуску, — удакладніла настаўніца Анна Лаеўская.

Настаўніца беларускай мовы Валянціна Андрасюк, якая была суарганізатарам „Куцці”, дадала, што галоўным недахопам у навучанні беларускай мовы з’яўляецца нястача новых падручнікаў. Вучням асабліва складана вывучыць без падручнікаў гісторыю беларускіх земляў. Аднак нягледзячы на гэтыя цяжкасці, у Комплексе школ у Чыжах усе вучні ходзяць на заняткі беларускай мовы ўжо з першага класа падставовай школы, разам 129 асоб. У дашкольным аддзяленні займаецца 25 дзетак, якія ў будучыні павінны таксама стаць навучэнцамі беларускай мовы. У чыжоўскай школе беларускай мове вучыць яшчэ Галіна Скепка, якая таксама прыйшла на перадкалядняе спатканне.

— У нас заўсёды быў высокі паказчык прысутнасці вучняў на занятках беларускай мовы і мы гэта лічым звычайнай з’явай. Нават асобы, што прыехалі на пастаяннае жыхарства ў нашую гміну з Беластока і Гайнаўкі, ходзяць на заняткі беларускай мовы, — заявіў дырэктар Міраслаў Пяткевіч.

Восенню 2011 года была здадзена ў карыстанне спартыўная пляцоўка „Орлік”. Гэтую інвестыцыю можна лічыць падарункам усім вучням і настаўнікам, паколькі будуць маглі яны займацца на ёй у вольны ад вучобы час. Будзе магла гуляць на ёй таксама пазашкольная моладзь.

Калі я выходзіў з чыжоўскай школы, вучні асталіся ўжо толькі на апошнія ўрокі ў апошні дзень перад святочным перапынкам паводле новага стылю. У час святкавання Раства Хрыстовага паводле старога стылю вучні і моладзь з чыжоўскай школы таксама застануцца дома. Вялікая частка з іх плануе калядаваць.

9 770546 196000



# Пазітыўны сцэнар

*Навагодне-калядныя святы заўсёды крыху выводзяць чалавека з рэчаіснасці і сапраўднасці. Нават дарослыя людзі схільныя верыць у казку — скрытае і зразумелае памкненне душы, закладзенае яшчэ з дзяцінства. Задумваюцца неверагодныя пажаданні, трызняцца вялікія мары. Але мінаюць святочныя дні і жыццё дзень за днём вяртае нас у навакольны свет з яго хібамі, жорсткасцю і сапраўднай рэальнасцю. Вяртаюцца паўсядзённыя клопаты, надакучлівыя працоўныя абавязкі, праблемы, якія патрэбна так ці інакш развязваць. У мітусні часта губляецца галоўнае, дробныя няўдачы сур'ёзна псуюць нам настрой, а маленькія радасці, якія і складаюць аснову чалавечага шчасця, не цэняцца і нават не заўважаюцца. Так бывае зазвычай і так, напэўна, будзе і далей.*

*У пераход старога 2011 года ў новы 2012 значная частка беларусаў апоўначы свядома ўжо па традыцыі выключыла айчынныя тэлеканалы. Выключыла асэнсавана, каб не слухаць „праздничныя паздравленія” таго, хто ўжо даўно не слухае аніводнага разумнага голасу, выключыла, каб увайсці ў новы год без навязлівага і надакучлівага вобраза. Але сапраўднага поўнага адчування свята не магло быць па той простай прычыне, што некаторыя нашы суайчыннікі, якія выступілі за праўду, якія імкнуліся законным спосабам змяніць сітуацыю ў краіне, дагэтуль за турэмнымі кратамі, гвалтоўна і несправядліва адарваныя ад сваіх блізкіх і родных. Лёс гэтых людзей найперш мусіць хваляваць суайчыннікаў. Не можа быць вялікай радасці ў кожнай сям'і, калі бяда ў нашым агульным беларускім доме.*

*Разам з гэтым апазіцыйныя дэмакратычныя сілы мусяць думаць і пра тое, як краіна будзе выходзіць з таго сумнага становішча, у якім яна апынулася ў выніку аднабаковага заганнага кіравання з ігнараваннем выбару грамадства і брутальным таптаннем усяго нармальнага і натуральнага. Грамадзянская супольнасць у кожным разе мусіць шукаць пазітыўны сцэнар выхаду з палітычнай няпраўнасці, гаспадарчага крызісу, грамадскага расколу і нават нянавісці, татальнай залежнасці ад усходняга суседа. Бо калі абрынецца цяперашняя ўлада (а яна абрынецца непазбежна, бо час заўсёды ўсё расстаўляе па сваіх месцах — гэта выразна прадэманстраваў у многіх краінах мінулы 2011 год), нельга дапусціць хаосу, разгубленасці, безнадзейнага крызісу, маральнай пустэчы. Свежы адмоўны прыклад такога — змена палітычнага рэжыму ў Егіпце, дзе ніяк не могуць выпрацаваць нармальныя арыенціры. Пасля змены сітуацыі ў Беларусі таксама непазбежна паўстануць архіважныя пытанні. Як ажыццявіць хвалявітую трансфармацыю ад дзікага „рынкавага сацыялізму” да ўнармаванай эфектыўнымі законамі эканомікі, пры тым даць людзям гаспадарчую вольнасць з мэтай фармавання дробнага і сярэдняга ўласніка? Як пры тым забяспечыць пенсіянерам і маламаёмасным слаям, якія ўжо не могуць самастойна зарабляць, мінімальна годны ровень жыцця і пэўныя сацыяльныя гарантыі? Куды падзець вялізную армію непатрэбных чыноўнікаў, пры тым правесці як мага больш справядлівую люстрацыю, як рэфармаваць грувасткае войска, рэарганізаваць славыя структуры з рэпрэсійных у праваахоўныя, адназіць незалежную судовую сістэму, фактычна наноў стварыць нацыянальную адукацыю? Нават калі ўявіць максімальна аптымістычны сцэнар змены ўлады (якога пакуль не бачыць ніхто!), мы не вернемся аўтаматычна на стадыю 1994 года, калі гвалтоўна было перапынена натуральнае развіццё дзяржавы. Патрэбныя будуць не толькі розум, але і моцная палітычная воля, каб захаваць дзяржаўную незалежнасць, кансалідаваць і рэфармаваць усю краіну.*

*Казачнае развязанне цяжкай сітуацыі не прыйдзе само па сабе. Каб стаць на пазітыўны шлях развіцця, трэба набліжаць гэты дзень ужо сёння, тварыць беларускую салідарнасць, распрацоўваць законапраекты і комплексныя праграмы, рыхтавацца да цяжкіх хвалявітых змен і новых выклікаў. Ці гатовая да такой працы дэмакратычная апазіцыя?..*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Кожны мае сваю Джамалунгму

*Кожны чалавек павінен узгадоўваць у сабе мару аб здабыцці нейкай вяршыні — калі не рэальнай, дык хаця б такой, што вырастае над яго ныя абмежаванні. Найвышэйшая гара Беларусі — Дзяржынская — уздымаецца на вышыню 346 метраў, дык ахвотных, каб на яе ўскарабкацца папраўдзе няшмат. У Польшчы, вядома, вышыня татраўскіх Рысаў змяшчаецца ў сярэдніх сусветных вышынях, ды нішто яны пры альпійскіх і гімалайскіх небасягах. А ўжо тыя для палякаў гэта нейкі выклік. От, індывідульнасці! Гэта адна з прычын, для якіх ездзяць яны ў Татры затоптваць іх, а не ўзбірацца на іхнія шматлікія пікі, якіх не хапае ў Беларусі. Як вядома, звычаем заваёўнікаў з'яўляецца ўтыркванне ў пік завяванай гары нацыянальнага сцяга. Гэта іх добрая воля, але і прыкмета шчырага патрыятызму. Дык адкуль узяліся прэтэнзіі да Сяргея Каваленкі, які пры недахопе больш амбітнага чуба ўскарабкаўся на той ад калядная ёлкі, пастаўленай у цэнтры Віцебска, і заткнуў на ім беларускі бел-чырвона-белы сцяг? Праўда, ёлачка гэта не Джамалунгма, ды ці напэўна? Шмат залежыць ад кантэксту. І дзіва: дасягненне Каваленкі суд патрактаваў як злачынства ды пакараў яго трыма гадамі пазбаўлення волі. З выпрабавальным тэрмінам. Такі прысуд гэта доказ на тое, што пляскаты краявід Беларусі няўхільна адціснуўся на мазгах суддзяў. Ды для іх пікам жыццёвых дасягненняў было б узабраіца на элементарную сумленнасць. Толькі што ў іх яе мерка — паводле Дзяржынскай горкі. Затое пікам, але ўпадку, на маю думку з'яўляецца праслаўлены індывідуалізм палякаў — рыса ненайгоршая, калі яе пакіраваць дзеля дабра іншых, але абрыдлая, калі служыць адно самой сабе. Яе прявам з'яўляецца грэбаванне тым, што ўжо здабыта. Хай бы гэта была дэмакратыя. Напрыклад, палякі затапталі Татры да метра. І ўвысь, і ўшыр. Падобна як нялёгка здабытую дэмакратыю. А калі ўжо штосьці здабыта — ужо нявартае старання. А бо то чаго ж і не здабылі палякі?! Таму польскі індывідуалізм пераўтварыўся ў нацыянальнае, не пазбаўленае гераізму, ныццё. Пачалося ад Кардыяна Вялікага паэта, які выправіў свайго героя на альпійскі Манблан, каб сабе там раманцычна пахныкаў. І так ужо засталося. Таму не для славы заваёўнікаў палякі валочацца па Татрах, а з-за патрэбы схавання ў горнай імгле, каб пад яе заслонамі панаракаць, а нават крыху палаяцца, нарабіць гамбровічаўскіх мін ці беспакарана паляпаць языком. Пацвердзіць гэта можа кожны, хто быў у Хахалоўскай даліне. Зліваюцца ў яе з высокіх гор як у клаакy найгоршыя праклёны: на ўрад, на грэкаў, на Палікота і педзікаў, а нават у нічым невінаватага Лукашэнку — без цэнзуры і ніякай боязі. Дарэчы, аж дзіўна, што на хахалоўскай паркоўцы не відаць аўтобусаў з беларускіх турбюро. То ж антылукашэнкаўскія маты былі б для беларусаў турыстычным гітом! Нічога. Пойдзем далей. Малая горка мае такую загану, што калі б нават і была найвышэйшай у ваколіцы, як гэта і ёсць з Дзяржынскай у Беларусі, чалавек, які яе акірачыць, і так не будзе ўсхвалены тымі, што засталіся ў яе падножжа. Інакш сказаўшы, той, што для славы яе здабывае — дурань. Беларусы, з-за пляскатасці свайго краявіду, паставілі на кемлівасць. Хоць іхні прагматызм — як гэта з прыкрасцю абагуліў мой сябра, польскі беларус — „абавязкова калектыўны”! Гэта не так, каб народ у сваёй цэласці апасаўся індывідуалізму. Справа ў тым, што цяжка ў такім краявідзе мроіць аб высакародных учынках. Бо вось так: дзе не азірнешся па баках, бачыш там іншага, што азіраецца па баках; паглядзіш тужліва на Дзяржынскую, а там на ёй ужо рассеўся Аляксандр Лукашэнка і суворым паглядам абмятае ўсё што ўнізе. Хоць ты і пад зямлю лезь! Ды дзе ж там — там ужо ўсё перарытае, перакапанае: а то зямляначка багата забяспечаная ў кансервы на чорную гадзіну, а то нейкае сховішча амаль кафкаўскага маштабу, а тут, вось, паспалітая ямка. Выкапаных ямак, дарэчы, поўна на кожным кроку, ды гэта ўжо іншае пытанне. Праўда ёсць такая, што з-за краявіду беларусам далёка да афганскіх талібаў, што ў сваіх зубастых горах закрыліся як у якой крэпасці. Ды гэта добра. Наймагутнай крэпасцю з'яўляецца сэрца чалавека. Калі ў ім ёсць прага пераадольваць найвышэйшыя вяршыні — усё добра. Добра мець сваю Джамалунгму! Хай была б гэта і святочная ялінка...*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Год моцнага павароту



*Кожны з нас у грыгарыянскі „сільвестар”, мабыць, паставіў сабе пытанне якім будзе новы 2012 год. Без сумнення тое, як будзе нам індывідуальна жылося, у значнай ступені будзе залежаць ад сітуацыі ў краіне, а затым ад рашэнняў яе кіраўніцтва. У сваім навагоднім выступленні прэм'ер Дональд Туск не пакідаў ілюзіі, хоць таксама прабаваў даць надзею. Сказаў: „Чакаюць нас цяжкія рашэнні, ды будуць яны справядліва раскладзены”. Яшчэ ў лістападзе ў экспазе ў Сейме гаварыў аб зменах, якіх можна спадзявацца, пачаўшы ад гэтага года. На пачатку адзначыў, спасылаючыся на крызіс Еўрасаюза:*

*— Еўропа змяняецца на нашых вачах, а напрамак змены зусім невядомы. Гаворка тут не толькі аб фінансавых і эканамічных зменах, але таксама аб той вялікай уяве супольнай Еўропы, якая ў шмат якіх месцах сёння падрываецца (...). Сапраўднай дылемай для Польшчы з'яўляецца тое, як быць у цэнтры Еўропы, як быць рэальным, галоўным гульцом на еўрапейскай сцэне, а не як з-за крызісу апынуцца на абмежку, на перыферыях, або па-за Еўрасаюзам.*

*Зараз пасля гэтых засцярог наступілі першыя навагоднія прадказанні. Мае наступіць абмежаванне дэфіцыту сектара публічных фінансаў так, каб пры канцы 2012 года дасягнуў ён 3-працэнтнага ўзроўню. Публічны доўг мае паменшыцца да 52%, а з мэтай да 47% у 2015 годзе. Дэталі змен у сёлетнім і наступных гадах? Вось некаторыя з іх. Мае быць павялічана „даніна”, якая бярэцца дзяржавай ад здабываных руд, такіх як медзь і серабро. На 50% будзе павялічана прасямейная ільгота на кожнае трэцяе і наступнае дзіця, а на двое першых застанецца без змен. Прытым заможныя сем'і, якія маюць толькі адно дзіця, а іхні даход перасягае 85 тысяч у год, такой ільготы не атрымаюць. Сем'і з такімі заробкамі не атрымаюць таксама аднаразовай выплаты з выпадку нараджэння дзіцяці (becikowe). Таксама асобы, выконваючыя працу на аснове г.зв. аўтарскіх дагавораў, якіх даход складае больш за 85 тыс. зл., не будуць мець магчымасці вылічыць з даходу 50% выдаткаў на кошты яго атрымання. Ліквідацыі падвяргнецца ільгота на інтэрнэт (што мае прынесці больш за паўтара мільярда злотых ашчаднасці на працягу чатырох гадоў). З „іншай бочкі”. Ашчаднасці мае прынесці таксама, напрыклад, паправа працы судоў, што мае скараціць сярэдні час працэсаў на адну трэць. У сваю чаргу дэфіцыт у пенсіённай сістэме, перавышаючы 20 млрд. зл., мае быць абмежаваны шляхам павышэння складчыны на два працэнтыя пункты на баку работадаўцаў. Валарызацыя пенсій па інваліднасці і пенсій мае быць утрыманая на папярэднім узроўні, але будзе мець квотавы характар, а не як дагэтуль — працэнтны. Сяляне, якія маюць гаспадаркі ад 6 да 15 гектараў, будуць плаціць палову складчыны ўкладванай да сёння асобамі вядучымі гаспадарчую дзейнасць па-за сельскай гаспадаркай, а больш за 15 гектараў — усю складчыну. У 2013 годзе тая складчына будзе аплачваця паводле тых самых прынцыпаў па агульнай схеме і ад таго ж года пачнецца адыход ад КРУС. Генеральна якраз 2013 год можа аказацца годам цяжэйшым, чым той, што пачаўся. Якраз ад таго года пачнецца паступовае зраўнанне пенсіённага ўзросту жанчын і мужчын, канчаткова да 67 года жыцця. Змены маюць таксама датычыць груп пенсіённа прывілеяваных: мундзірных служб, шахцёраў, пракурораў, суддзяў і ксяндзоў. Напрыклад, у выпадку мундзірных служб, на пенсію можна будзе ісці ва ўзросце 55 гадоў пасля 25 гадоў працоўнага стажу.*

*Хаця шмат з чакаючых нас змен будзе ўводзіцца паступова, будуць яны раскладзены на найбліжэйшыя гады, чаго сам прэм'ер у сваім экспазе не скрываў:*

*— 2012 год будзе ад нас, палякаў, патрабаваць час ад часу здольнасці да моцных паваротаў, да гнуткага падыходу да руціны.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Стары і новы стылі

Адам БОБРЫК

**У праваслаўі для акрэслення святочных і посных дзён ужываюцца два календары: юліянскі і грыгарыянскі. Паўсюдна называюць іх старым і новым стылем. Першы каляндар, апрацаваны астраномам Сазігенам, увёў у жыццё ў 46 г. да нашай эры кесар Юлій. Папа Грыгорый XIII выправіў яго рэформу. У 1582 г. выдаў буллу „Inter gravissimas". Прычынай было штораз большае разыходжанне паміж лічаным астранамічным і каляндарным часам. У выніку апярэджвае ён на 13 дзён папярэдні. Адтуль адрозненне ў тэрмінах адзначання святаў ці посных дзён. Раджаство Хрыстова па новаму стылю святкуецца 25 снежня, калі паводле старога стылю — 7 студзеня. Таксама Пасха, у выніку прыняцця іншага метаду лічэння, выпадае ў розныя чыслы. Хоць здараецца, што тыя даты сходныя. Грыгарыянскі каляндар быў прыняты перш за ўсё хрысціянамі на Захадзе. Яго ўступленне ў сілу было, аднак, прычынай шматлікіх канфліктаў.**




*Юліянскія і грыгарыянскія табліцы з эпактамі для вылічэння тэрміну Вялікадня (XVII ст.)*

Нейкі пералом наступіў у 1923 г., калі ў Канстанцінопалі частка праваслаўных іерархаў пад кіраўніцтам патрыярха Мялецтя IV прыняла рашэнне аб прыняцці грыгарыянскага календара. Паступова праваслаўныя цэрквы ў паасобных краінах дастасоўваліся да яго. Не ўсе, аднак, адобрылі новы каляндар, часткова або цалкам. У выніку таго праваслаўныя ў розных краінах святкуюць у розны час. У Грэцыі ці Балгарыі Раджаство Хрыстова адзначаецца паводе новага стылю, а ў Расіі ці Беларусі — паводле старога. Тым не менш Уваскрэсенне Гасподняе святкуецца ў адным тэрміне. У Рэчы Паспалітай пытанне календара выклікае не толькі спрэчкі сярод вернікаў, але і зацікаўленне дзяржаўных улад і націскі з боку асяроддзяў не ўдзельнічаючых у жыцці Царквы.

Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ўзнікла ў спецыфічнай гістарычнай сітуацыі. Пасля I сусветнай вайны Польшча здабыла незалежнасць. У яе межах пражывала больш за 4 мільёны асоб праваслаўнага веравызнання. Прыходскія і епархіяльныя структуры былі моцна знішчаныя вайной, а Царква была падлеглай Маскоўскаму патрыярхату. Быў ён адначасова незвычайна аслаблены антырэлігійнымі рэпрэсіямі ўлад паслярэвалюцыйнай Расіі. Польскія ўлады непрыязна адносіліся да сітуацыі, калі кіраўнічы цэнтр Царквы, гуртуючай галоўным чынам нацыянальныя меншасці, знаходзіўся па-за межамі дзяржавы. Таму кіраваліся да самайстойнасці Царквы на сваёй тэрыторыі, трактуючы гэта як чарговы сімвал доказу суверэннасці краіны. Гэтыя дзеянні былі завершаны выданнем томаса аб наданні аўтакефаліі 13 лістапада 1924 года патрыярхам Канстанцінопаля Грыгорыем VII.

Трэба звярнуць увагу на тое, што асноўная грамадская база вернікаў складалася ў той час з нацыянальных меншасцей. Палякаў было 0,5 мільёна. Найбольш было ўкраінцаў — 2 млн., беларусаў — 1,5 млн. і расіян — 0,1 млн. Улады, дзеля выклікання асіміляцыйных працэсаў, абмяжоўвалі прыхадскую сетку, націскалі на прымянянне польскай мовы ў літургіі і ва ўсім унутраным жыцці ды падтрымлівалі рух праваслаўных палякаў. Важным элементам дзеля абмежавання асобнасці гэтага веравызнання было схільванне да ўжывання новага стылю ў рэлігійным жыцці. Царыла думка, што юліянскі каляндар спрыяе захоўванню так канфесійнай, як і нацыянальнай адрознасці. Святароў, якія гэтаму супрацьставіліся, абвінавачвалі ў маскалафільскіх схільнасцях. Частка прыходаў паддалася націску і пераходзіла на новы стыль. Сустракалася гэта з вялікім супраціўам вернікаў.

Як піша Сяргей Баравік наконт Беласточчыны, „вялікае замяшанне ўвяло заўчаснае і без адпаведнай падрыхтоўкі ўвядзенне новага стылю ў набажэнствы. У частцы прыходаў быў прыняты новы стыль, што выклікала байкот Царквы. У некаторых былі ўжываныя абодва календары. (...) Супакаенне наступіла толькі пасля вяртання старога стылю". Палескі ваявода Вацлаў Костэк-Бярнацкі заяўляў упрост: „Юліянскі каляндар, які стасуецца ў Праваслаўнай царкве, з'яўляецца не настолькі істотнай, як фармальнай перашкодай у далейшым уз'яднанні праваслаўнага насельніцтва з польскай дзяржаўнасцю". Таму ўсчыналіся шматлікія ініцыятывы, каб схіліць праваслаўных да змены стылю.

Сутнасныя змены наступілі пасля II сусветнай вайны. У выніку змены межаў і абмену насельніцтва з СССР ды перасяленняў і міграцыі ўнутры краіны, Царква практычна страціла сваю базу і структуры, якія трэба было фармаваць дастасоўваючыся да новых умоў. Актуальна паводле дадзеных Галоўнай статыстычнай установы, ПАПЦ налічвае 504 150 вернікаў, што складае 1,3% ад агульнага ліку насельніцтва. Налічвае 232 прыходы і 404 духоўных. Праваслаўе з'яўляецца меншаснай канфесіяй. Мае гэта свой адбітак таксама ва ўжыванні літургічнага календара. У прынцыпе ў польскай Царкве прыняты стары стыль. Тым не менш шмат прыходаў, на тэрыторыі дыяспарнага характару, святкуе паводле новага стылю. Перш за ўсё вынікае гэта з факту функцыянавання ў дамінуючым атачэнні, ужываючым грыгарыянскі каляндар. Святкаванне ў іншым тэрміне з'яўляецца вялікім арганізацыйным выклікам у сувязі з тымі а не іншымі выхаднымі днямі. Гэтае пытанне па-рознаму рэгулюецца ў паасобных епархіях. Выклікае таксама рознагалоссе. Прыхільнікі новага стылю адзначаюць, што ў перыяд папярэджваючы святы павінен быць захаваны пост. Адзначаючы ўрачыста Новы год не захоўваецца ўстрыманасць. Тым не менш адабрэнне змены стылю ў Польшчы адносна павольнае і не мае масавага характару. Трапляюцца таксама выпадкі нават у дыяспарных грамадствах, як у Петрапаўлаўскім прыходзе ў Яленяй-Гуры, якія вярнуліся да старога стылю.

Пытанне календара ў цяперашні час не мае ўжо такога маштабу як пару дзесяткаў гадоў таму. Гэтае пытанне ўспрымаецца ў натуральны спосаб і ацэньваецца больш у катэгорыях адносін да традыцыі, а не нацыянальна-палітычнай перспектывы. У гарадах вялікіх, такіх як Варшава, Кракаў, Вроцлаў ці нават Беласток, служыцца літургія таксама і па новаму стылю. Прызначана яна так для асоб, якія па асабістых прычынах хочуць святкаваць паводле новага стылю, як і мешаных праваслаўна-каталіцкіх сужонстваў. У „сталіцы" польскага праваслаўя Беластоку у гарнізоннай царкве св. Марыі Магдаліны ад 1995 года літургіі служацца паводле грыгарыянскага календара. Гэта адзіны храм у гэтым горадзе, які прыняў новы стыль. У іншых падобныя спробы не выклікалі значнага зацікаўлення. У Варшаве ў двух храмах правіцца выключна паводле новага стылю, у трох толькі паводле старога. У саборы св. Марыі Магдаліны дзве нядзельныя літургіі правяцца паводле грыгарыянскага, а адна паводле юліянскага календароў.

Як вынікае з даследаванняў праведзеных аўтарам разам з Ізабелай Кохан на тэрыторыі дэканата Белая-Падляшская, вернікі не выказваюць значнай схільнасці да змены стылю. Дэкларуюць высокі ўзровень адабрэння таго календара, паводле якога адзначаюць святы. Усё ж выразна лепш успрымаюць стары стыль, які адрознівае іх таксама ад каталіцкай большасці. Гэта ўздзеянне традыцыі і прывычка да акрэсленай формулы. Тым не менш выступаюць нейкія адрозненні паміж вернікамі, якія адзначаюць святы паводле новага і старога стыляў. Значна вышэйшы ўзровень адабрэння выказваюць вернікі, якія карыстаюцца юліянскім календаром. Сярод іх 86% не хацелі б святкаваць паводле іншага стылю. Сярод тых, хто карыстаецца грыгарыянскім календаром, таксама быў выказаны высокі ўзровень адабрэння, ды схільнасці не былі так адназначна выказаны. Адабрэнне выказала 52% апытваных.

Некаторыя вернікі абгрунтоўвалі, што прыняцце новага стылю дало б магчымасць святкавання з дамінуючай у Польшчы каталіцкай грамадскасцю. Пазбеглі б дзякуючы гэтаму шматлікіх праблем звязаных з неабходнасцю здабывання дадатковых выхадных дзён на працы і ў школе. Не хапае таксама адчування святочнай атмасферы ў грамадскім атачэнні. Вернікі прыцягваюць увагу сваёй іншасцю. Адказваючы на гэтыя сумненні ўладыка Іакаў (Касцючук) заявіў: „Ці не можам цешыцца, што ўтрымаліся мы ў нашай сапраўднай веры, захоўваючы яе традыцыі да сёння? (...) Адзначаючы нашы святы нерухомыя паводле новага стылю, а рухомыя вылічваючы паводле старой нікейскай пасхаліі, вядома, не парушаем догмаў Царквы, аднак уводзім у жыццё два стылі. Лічэнне даты святкавання Вялікадня сцісла звязана з юліянскім календаром (...). Можам затым дзякаваць Богу і нашым продкам, якія пры вялікіх цяжкасцях змаглі захаваць стары стыль. Пастараймася захаваць яго і мы". Дыскусіі на гэтую тэму вядуцца на інтэрнэтных форумах. Досыць сімптомным з'яўляецца наступнае выказванне: „Мы, праваслаўныя хрысціяне, не абапіраем сваёй веры на календары (...). Проста памяркоўна падыходзім да навінак — і ў чарговы раз аказалася, што, здаецца, слушна".

У перыяд апошніх пару дзесяткаў гадоў пытанне календара ўжыванага ў Праваслаўнай царкве выклікала шмат эмоцый. У міжваеннае дваццацігоддзе дзяржаўныя ўлады ўспрымалі новы стыль як адзін з інструментаў нацыянальнай асіміляцыі, а, мабыць, у далейшым плане і рэлігійных канверсій. Вернікі захоўвалі стары стыль як прыкмету сваёй адрознасці і прывязанасці да традыцыі — так канфесійнай, як і нацыянальнай. Пасля II сусветнай вайны спыніліся моцныя вонкавыя націскі ў гэтым плане. Адначасна шмат праваслаўных, пражываючых у дыяспарным асяроддзі, кіруючыся практыкай штодзённага жыцця, сталі дастасоўвацца да новага стылю. Канфесійная адрознасць не выклікае сёння ўжо такіх эмоцый як даўней, у сувязі з гэтым тэндэнцыі пастулюючыя змену стылю не з'яўляюцца замоцнымі. Трэба адзначыць, што шматгадовая дыскусія на гэтую тэму толькі ў невялікай ступені адносілася да тэалагічных аргументаў. Найістотныя былі затое пытанні звязаныя з палітычным і грамадскім атачэннем. У выніку таго неаднойчы ў адной мясцовасці, а нават прыходзе ўжываюцца два стылі. З'яўляецца гэта, аднак, адказам на спадзяванні вернікаў, а не на вонкавы націск.

## Новы расказ аб калядзе

У беластоцкім клубе „Фама” прайшоў канцэрт „Новы расказ аб калядзе”. Невялікая зала запоўнілася амаль да апошняга месца. Сярод гледачоў напэўна было шмат фанаў гурту „Ilo&friends”, у якім іграюць аўтары каляднага праекта Ілона Карпюк і Міхал Мінта. Але прыйшлі таксама асобы, якія хацелі паслухаць калядак у вельмі цікавай аранжыроўцы.

„Новы расказ аб калядзе” гэта супольны праект Ілоны Карпюк, Яўгена Барышнікава і акардэаніста Міхала Мінты. Гасцінна ў час канцэрта заспявалі таксама дзяўчаты з беластоцкай групы „Палудніцы”.

Канцэрт складаўся з дзвюх частак. У першай можна было пачуць песні гурту „Ilo&friends”, у другой — прагучалі калядныя песні пад акампанемент дуды і акардэона.



Спяванне калядак у гэтым часе, можна сказаць, натуральная рэч. У беларусаў калядкі часта выконваліся ў суправаджэнні дуды, таму гурту „Ilo&friends” у час канцэрта на дудзе падыгрываў Яўген Барышнікаў, вядомы ўжо падляшскай публіцы, між іншым, з выступаў на „Бардаўскай восені” (у 2010 годзе заваяваў Гран-пры). Сам Барышнікаў з'яўляецца членам Дударскага клуба, які існуе з 2007 года.

— Дударскі клуб гэта аб'яднанне дудароў і майстроў, якія выконваюць інструменты паводле традыцыйных узораў, — сказаў Барышнікаў. — Апрача таго адной з задач нашага клуба з'яўляецца папулярызацыя дуды і яе гучання сярод маладых беларусаў. Я пачаў іграць на дудзе ў час майго інтэнсіўнага захаплення традыцыйнай беларускай культурай. Калі б не гэта, сёння напэўна не граў бы на дудзе.

Перыяд перад Калядамі і ўласна Каляды з'яўляліся для дудароў „залатым часам”. Існуе нават гіпотэза, што ў той час яны так многа ігралі, што трэба было праціраць мех дуды. Проста, няма ў гэтым нічога дзіўнага, што Ілона Карпюк вырашыла запрасіць беларускага дудара і барда на супольнае калядаванне. У час канцэрта прагучалі калядкі беларускіх памежжаў, у большасці невядомыя беларусам Падляшша.

— Шмат часу я правярала, якія калядкі спяваць. Думала пра песні Сакольшчыны ці Нараўчанскай зямлі, дзе спяваюць традыцыйныя царкоўныя калядкі, — зазначыла Ілона Карпюк. — Тады Яўген сказаў, што дуда гэта архаічны інструмент і можа лепш было б падабраць калядкі з гэтых рэгіёнаў Беларусі, дзе дуда больш папулярная. Для мяне гэта было зусім „чужое” і можа таму мне хацелася з гэтым пазнаёміцца.

Калядкі можна было таксама пачуць у Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзенцілове і падбелавежскіх Тэрэмісках.

**Уршуля ШУБЗДА**



Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Андрасюк: сага роду па-польску

**Міхась Андрасюк, беларускі пісьменнік з Беласточчыны, становіцца ўсё больш вядомым польскаму чытачу. Летась выйшла яго кніга на польскай мове „Wagon drugiej klasy”, якая адразу апынулася сярод найлепшых кніг рэгіёна (намінацыя да ўзнагароды імя Веслава Казанэцкага), а пасля мінулагодніх каталіцкіх Каляд выйшла кніга „Белы конь” (беларускае выданне ў 2006 г.) у перакладзе на польскую мову Марціна Рэмбача. У „міжчассі, — як сказаў сам аўтар, — паміж каталіцкімі і праваслаўнымі Калядамі” адбылася прамоцыя кнігі ў Беластоку ў мастацкай кавярні „Labalbal” і ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы „на праваслаўнай і каталіцкай мове” — што знамянальна, — адзначыў аўтар. Паводле Марціна Рэмбача, кніга „Белы конь” паказвае перш за ўсё супольны лёс і зразумелая яна не толькі для беларусаў, але і палякаў:**

— Польскі чытач разумее кантэкст гэтай кнігі. Кніга апавядае пра сукупнасць праблем памежжа, а таксама пра агульную і індывідуальную гісторыю палякаў і беларусаў. Гэта адносіцца да ўтварэння мястэчак на памежжы, войнаў, якія змяняюць свет, савецкай і нямецкай акупацыі. У гэтай кнізе гэты кантэкст з'яўляецца найбольш агульным для беларусаў і палякаў.

Міхась Андрасюк:

— Гэта гісторыя памежжа, гісторыя сям'і, на якую нахабна, раптоўна ўплывае вялікая сусветная гісторыя. Раптам за стадолай нашага героя з'яўляецца дзяржаўная польска-савецкая мяжа, пра якую ён ніколі не ведаў, якую ён ніколі не бачыў і не ведае, што ў выніку атрымаецца. Гэта гісторыя памежжа, бачаная праз лёсы адной сям'і, якая адштурхваецца ад мяжы, бо раптам паяўляецца мяжа, і гэтая сям'я вандруе ў новае месца — у мястэчка. У горадзе гісторыя сям'і пачынаецца пісаць нанава. Але немагчыма пазбыцца ім ад усіх сваіх каранёў. Гэта звычайнае месца на нашым польска-беларускім памежжы, як і на кожным іншым у Еўропе. Там, дзе межы, там час ад часу ўсё ж людзі вандруюць. Хоць гэта ўцёкі ад чагосьці, ад чаго ўцячы немагчыма. Людзі доўга шукаюць шлях на вонкі. Не заўсёды гэты шлях знаходзяць. З гэтага вынікаюць іх асабістыя трагедыі. Чаму белы конь? Першая ідэя загалоўка была крышку іншая. Гэты быў „Белы конь, чорны конь”. Белы конь гэта супрацьвага для чорнага каня, які таксама з'яўляецца героем гэтай кніжкі. Белы конь і чорны конь гэта як аснова, з якой выткана наша жыццё. Добрае і благое — яно нейк так перасякаецца, і перакрыжоўваецца. Ёсць у нас народная мудрасць, што раз чалавек на кані, раз пад канём. Бабка Сонька кажа: раз чалавек на белым кані, раз на чорным.

Пішучы па-беларуску і па-польску, здзяйсняеш сінтэз гэтых дзвюх моў. На ўзроўні паэтычнасці беларускую мову дапаўняеш польскай, і наадварот.

Маю тое шчасце, што жыву ў дзвюх мовах, у дзвюх культурах, на пагранiччы. Людзі пагранiчча маюць няраз пакручастыя біяграфіі, ды гэта людзі шляхетныя. Люблю глядзець на іх і іх слухаць. Вельмі цікавіць мяне іхняя псіхіка...

Малыя правінцыйныя светы няўмольна ўміраюць, і не дасца гэтага рэанімаваць.

Я нарадзіўся ў Гайнаўцы, але, быўшы дзіцём, жыў у вёцы. Многа чытаў, у Старыне прачытаў хіба ўсе кніжкі. Я чытаў іх нават пад коўдрай пры святле батарэйкі. Ужо ў пачатковай школе думаў, што буду пісьменнікам, меў нават загалоўкі сваіх кніжак, не думаў, што буду лётчыкам, пажарнікам ці танкістам, як думаюць хлопцы ў дзяцінстве. З таго часу, калі я вывучыў літары і стаў чытаць, пачалося ў мяне зацікаўленне літаратурай. Першыя, яшчэ несур'ёзныя спробы, былі вершы ці вершыкі ў „Ніву” — у „Парнасік”. Усур'ёз і свядома стаў я пісаць як сталы чалавек. Памежжа і Гайнаўка займаюць у маёй творчасці цэнтральнае месца. Я яго разумею, або мне часам здаецца, што разумею, а часам здаецца, што яго зусім не разумею, і шукаю іншай сцежкі, каб зразумець незразумелае. Я выхаваўся побач з мяжой, вырас на памежжы, на адміністрацыйна-дзяржаўнай мяжы, на мяжы моў, культур і рэлігій, і гэта прыходзіла паступова. У раннім дзяцінстве чалавек нават не ўсведамляў, што існуе іншы свет, чым гэты наш, тутэйшы, беларускі (слова „беларускі” я пачуў даволі рана ад сваёй бабулі, якая казала, што мы — беларусы). Аб тым, што свет не завяршаецца на нашай маленькай тэрыторыі, што гэта памежжа я даведваўся паступова.

Якое гэта пачуццё бачыць кніжку, перакладзеную на польскую мову? Цікава лістануць, і тым больш цікава, што мне пашэнціла з перакладчыкам. Мы знаёмы з Марцінам шмат гадоў, ён мяне ведае як чалавека, не толькі як аўтара гэтай кніжкі, і ён разумее гэту маю беларускую пісаніну. Ён пераклаў гэта вельмі трапна — усе гэтыя мае беларускія сны, шопаты, крыкі — усё ён вельмі трапна выказаў на польскай мове.

Мяжа... Можа ўжо зашмат „мяжы” ў маім жыцці, і паціху пачынаю ад яе адштурхоўвацца ў новых тэкстах, якія марудна, бо марудна, але дзесьці там узнікаюць на віртуальнай паперы. Мяжа можа там адгукаецца ўжо далёкім рэхам.



Якія адносіны да Андрасюковага пісання ў Гайнаўцы? Я нават сам задумваюся, бо мужчына робіць рэчы канкрэтныя. А хіба крыху несур'ёзна, калі мужчына сядае і бавіць час, дабываючы нейкія словы на паперу. А бацькам было мо крыху цікава, мо крыху здзіўляліся, — ніхто ж у найбліжэйшай сям'і не пісаў. Адкуль гэта ўзялося? Не думаю, што мае бацькі бачылі мяне ў перспектыве чалавека, які сур'ёзна будзе займацца літаратурай. Я і сам не ведаю ці сур'ёзна займаюся літаратурай. У прынцыпе я не пісьменнік, я проста час ад часу нешта пішу. Што пішу? Няхай гэта будзе неспадзяванкай.

Фота і тэкст
Ганны КАНДРАЦЮК

# Лекцыя пра кніжную культуру і беларускі Пецярбург

**— Вывучаць кніжную культуру гэта незанудная справа, часта вельмі цікавая, — прафесар Мікола Нікалаеў прывёў каларытныя прыклады. — У Мсцішскім евангеллі з чатырнаццатага стагоддзя патрапіў я на ініцыялы ў літары „М". Яе прадстаўляюць два мужыкі, якія трымаюць сетку на рыбы. Людзі акуратна адзетыя: у шапках, касцюмах, ботах. І адзін з іх кажа другому: *Пацягні, курвін сын!* А той другі яму: *Сам есі таков!***

*(Смех)*

— Разумееце, гэта „Псалтыр", чатырнаццатае стагоддзе, — удакладніў дакладчык.

*(Захопленая аўдыторыя гатова біць брава!)*

— Беларусы заўсёды былі з гумарам, гэта дапамагала нам выжыць, — зрабіў выснову прафесар.

Госць беларускага „чацвярга" прыводзіў іншыя гумарыстычныя прыклады, знойдзеныя ў старых кнігах. Вось у 1671 годзе выйшла кніга пра святых патронаў Польшчы і Літвы. Калі прыгледзецца ён да партрэта святога Галікана (у прыватнасці, рымскага воіна), ведаў, што дзесьці ўжо яго бачыў. І што аказалася?! Гэта быў сам Леў Сапега. Яго партрэт пры дапамозе люстэрка перавялі з кнігі надрукаванай Вільгельмам Гондзіусам паўстагоддзя раней у Гданьску і „далі" яго твар хрысціянскаму мучаніку-жаўнеру.

* * *

Прафесар Мікола Нікалаеў — асоба вядомая ў свеце навукі і ў Беларусі. Яго імя сугучнае з беларускай дыяспарай Пецярбурга. У час беларускага „чацвярга" прыблізіў ён плён сваіх трыццацігадовых пошукаў і доследаў. Старабеларускай кнігай стаў захапляцца будучы школьнікам і, як адзначыў, паўплывала на гэта гістарычная аўра роднага Навагрудка. А дакладней, адна манетка, якую знайшоў у час раскопак на гарадзішчы. Гэту манету выменяў на „Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага з 1926 г. Прачытаў яе тры-чатыры разы, з цікавасцю большай як дэтэктыў. І стаў свядомым беларусам. У студэнцкія часы меў магчымасць глядзець старажытныя рукапісы. Пасля жыццёвы шлях прывёў у Пецярбург, дзе стаў працаваць у Нацыянальнай бібліятэцы.

— Тады я вырашыў зрабіць работу, якой не зрабіў Ластоўскі, — адзначыў дакладчык. — Для Ластоўскага асновай беларускасці была кірыліца. Але я бачыў кніжкі напісаныя лацінкай, арабскім і жыдоўскім пісьмом. І падумаў, каб паказаць гэты дыяпазон. Мясцовыя жыхары карысталіся некалькімі культурнымі пластамі, але людзі і асаблівасці мясцовага жыцця былі тыя самыя. Памятаю як у школе дзялілі культуру на нашу і польскую, як чужую. Мае знаходкі гаварылі другое. Напрыклад, у Супраслі да XVIII стагоддзя друкавалі „Буквары", там былі славянскія словы і іх пераклад на польскую мову. Гэта паказвае, што польская культура не перакрывала беларускай. Яна суіснавала на тэрыторыі Беларусі. У тым жа XVIII стагоддзі ў Вільні друкаваліся беларускія кнігі рэлігійнага зместу лацінкай (готыкай). Па простай прычыне, у друкарні не было кірылічнага шрыфту.



Прапанова доследаў у кантэксце культурнага дыяпазону спачатку не ўсім падабалася.

— Мне закідалі, што я мяшаю культуру, — успамінае Нікалаеў. — Мала хто разумеў, што шматварыянтнасць культуры дапамагае.

Шматгадовыя доследы разнавіднасці ў культуры прывялі да цікавай ды каштоўнай для будучыні высновы.

— Беларусы ў кожны момант гатовы перайсці на лацінскую клавіятуру, — сцвярджае прафесар, — бо ёсць для гэтага грунтоўная традыцыя.

* * *

У працягванні ідэі Вацлава Ластоўскага прафесару Нікалаеву дапамог лёс і ўсялякія перашкоды.

— У савецкія часы карыстацца рукапісамі дазвалялі адно працаўнікам бібліятэкі. Я заставаўся дзве-тры гадзіны пасля працы і заглядаў у рукапісы. У асвятленні культурнага дыяпазону дапамаглі працы Алодзіі Кавэцкай-Грычовай, якая займалася кніжнай культурай з тэрыторыі Беларусі, запісанай на лацініцы. У спалучэнні з кірылічнай спадчынай атрымаўся імпазантны вынік. Доследы кніжнай культуры Беларусі, з улікам яе шматварыянтнасці, паказалі беларусаў як еўрапейскі народ, з прыстойнай культурнай спадчынай.

— Існуе такая ўява, што беларус — „пан сахі і касы", — адзначае прафесар, — быццам у яго не было ніякай справы да кніжнай культуры. Тым часам на тэрыторыі Беларусі адбывалася тое, што ў дадзены момант адбывалася на цэлым кантыненце. Найлепшым прыкладам з'яўляюцца бібліятэкі Радзівілаў і Сапегаў, якія пасля паўстанняў канчаткова вывезлі ў Пецярбург. Гэтыя зборы ўсведамляюць узровень кніжнай культуры. Найлепшым прыкладам тут „Брэсцкая біблія", выдадзеная Радзівілам у 1563 годзе. Гэта паказальнік тэхналагічнай дасканаласці. Адначасова гэта прыкмета вялікай залатарскай культуры. Гэта наш гонар. Бо аж па XIX стагоддзе ўвагу засяроджвалі на змесце кнігі і мастацкім афармленні. Што тады цягам стагоддзяў у нас чыталі? Мода і густы чытача мяняліся. Спачатку ўсе чыталі „Псалтыр", пазней, напрыклад у XVIII-XIX стст. прыйшла мода на французскую і мастацкую літаратуру.

Увесь даклад пераплятаўся з прэзентацыяй кніг „Гісторыя беларускай кнігі (Кніжная культура ВКЛ)" і „Беларусы Пецярбурга". Іх з'яўленню спадарожнічалі перашкоды, якія ў рэшце рэшт спрацавалі ў карысць выдання. Першая з іх чакала выдання аж пятнаццаць гадоў.

— За гэтыя гады вельмі развінулася мастацтва паліграфіі, — жартаваў дакладчык, — і дзякуючы гэтаму чытач можа любавацца ілюстрацыямі і гравюрамі. Значная частка выдання датычыць рукапісаў і выданняў Супрасльскага манастыра. На сённяшні дзень яны знаходзяцца ў славянскім спецфондзе. У Пецярбургу таксама захоўваецца архіў манастыра і цэлае справаводства з нашай глыбінкі, напрыклад, дакументы ад пабудовы чыгункі.



— Гэта таксама задача і выклік для вас, — на канец сваёй займальнай лекцыі прапанаваў студэнтам прафесар Мікалай Нікалаеў. — Вы можаце прыехаць у Пецярбург даследаваць архіўныя матэрыялы.

Студэнты ў гэты раз не падвялі і цэлым курсам з'явіліся на „чацвер", які наладзілі 15 снежня ў дакалядным Беластоку.

Другую частку лекцыі склаў гістарычны нарыс пра беларускую дыяспару Пецярбурга, якая была ўжо пры панаванні Пятра І. У XIX ст. Пецярбург быў самым вялікім па колькасці гараджан „беларускім" горадам у свеце! У сталіцу імперыі падаваліся ўсе, якія хацелі вучыцца, рабіць кар'еру. Сёння, паводле апошняга перапісу насельніцтва, у горадзе пражывае дзевяноста тысяч беларусаў (нефіцыйна гаворыцца пра сто пяцьдзесят тысяч). У асноўным гэта чорнарабочыя. У горадзе на Няве зарэгістраваны пяць беларускіх арганізацый. Праўда, выхадцы з Беларусі не адчуваюць сябе ў Пецярбургу эмігрантамі, але ўсе моцна тужаць па бацькаўшчыне, — адзначыў Мікола Нікалаеў.

## Еўракуцця

У сувязі з перадкаляднай ранішняй перадачай Польскага радыё ветліва прашу Паважаную Рэдакцыю паведаміць мне адрасы ліцэнзаваных убойняў карпа на тэрыторыі нашага ваяводства. Паясняю, што сёлета вырашыў я ладзіць еўракуццю, каб Санта-Клаўс, калі мяне наведае, не падумаў, што я такі адсталы і цёмны чалавек, як тыя, калі можна так сказаць, махеравыя берэты. У сувязі з гэтым мак у куцці замяню я фігавым зернем, дастаўленым з Ізраіля, сухія фрукты для кампота купію ў краме з экалагічнымі харчамі, капусту і грыбы ў вушках для баршчу замяню японскім сушы, а вяндліну на святочнае снеданне купію у сецi супермаркетаў, якія прадаюць свініну, бульбу і малако, завезеныя з Нямецкага Рэйха. Летась прыслухаўся я да заклікаў аднаго члена ўрада ў Варшаве і выпусціў купленага карпа ў рэчку, якая цячэ праз нашую мясцовасць, за што мяне аштрафавалі за забруджанне асяроддзя, бо мой карп аказаўся быць снулым. У сувязі з гэтым сёлета не буду рызыкаваць і за рэкамендаваны ўбой заплачу.

А Вашай Рэдакцыі з выпадку надыходзячых зімніх святкаванняў сардэчна жадаю ўдалага снегавіка, шмат амерыканскіх песенек па радыё аб белым Божым Нараджэнні і радасных сустрэч у сямейным коле, калі ўсе на момант адарвуцца ад ноўтбукаў і разам падымуць бакалы за нашае ўдалае еўрапрэзідэнцтва. І каб ніхто не пасмеў прыпамінаць аб нейкай там Стайнячцы і народжаным у яе Хлопчыку.

З еўрапейскім прывітаннем Мэры Крыстмас!

**Ваш Марк ЦЫБАРТ**

**PS.** Гэта не я звар'яцеў, гэта сённяшні свет штораз больш напамінае дурдом.

**М. Ц.**

## Сербскі вечар

У канцы лістапада ў Праваслаўным доме культуры, які знаходзіцца ў Бельску-Падляшскім па вуліцы Рэйтана, адбыўся сербскі вечар. Прысутных прывітаў дырэктар гэтага дома айцец Георгій Багацэвіч. Тэмай сустрэчы былі „Місіянерскія лісты" ўладыкі Мікалая (Велімiравіча), а чытаў іх сербскі перакладчык і паэт Владан Стаменкавіч, які жыве ў Польшчы. Пра выдатнага сербскага тэолага, яго жыццё, творчасць і значэнне для праваслаўя расказаў айцей Міхал Чыквін. Апрача таго можна было пацікавіцца і паглядзець выстаўку сербскага мастака Ясміна Шольяніна п.з. „Айцы сербскага народа", а менавіта пра каралёў Сербіі і вельмі важныя бітвы, м.інш. на Косавым полі. Усіх зацікавіла тое, што мастак не мае ў гэтым напрамку адукацыі, у яго цудоўны талент. На сустрэчы прысутны быў пасол Рэспублікі Сербіі Радойка Багоевіч, які на пытанне сабраных расказаў пра сучасную сітуацыю сербаў. Былі таксама прадстаўнікі ваяводскіх і гарадскіх улад, духоўныя асобы, гасцям уручаны былі падарункі. Вельмі прыемна было правесці вечаровы час у такой цёплай і сардэчнай атмасферы.

**Жэня МАРТЫНЮК**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Скаўтынг з праваслаўным брацтвам

Хоць называюць сябе „Малым брацтвам", у іх вялікія мары і патрэбы самаўдасканалення! Напярэдадні свята Каляд, 27 снежня 2011 г., арганізавалі свае майстар-класы. Іх першай задачай было выкананне павука з саломы. Гэты прызабыты калядны матыў цягам стагоддзяў, пакуль не з'явілася ёлка, прыздабляў падляшскія хаты.

— Нам марыцца, каб разумна і з карысцю звярнуцца да традыцыі бацькоў, да каранёў, — кажа этнограф Эва Мароз-Кечынская. — Нашы праваслаўныя святы глыбока пранізаны народнымі звычаямі і традыцыяй. І мы хочам паказаць іх дзеткам. Апрача этнаграфічных майстар-класаў плануем арганізаваць гульні на свежым паветры, веласіпедныя і пешыя вандроўкі па пушчы, спартовыя спаборніцтвы, мастацкія пленэры і тэатральныя пастаноўкі. Думаем і пра экскурсіі шляхам праваслаўных цэркваў і святынь, пра сустрэчы з творцамі і заслужанымі ў гісторыі рэгіёна аўтарытэтамі.




Як не цікава, прапановы прыйшлі ад пяці вынаходлівых матуль, закаханых духоўным і нацыянальным выхаваннем сваіх сынкоў і дачушак. На першыя заняткі, якія адбываліся пры гайнаўскім саборы, прыйшло больш за дваццаць дзяцей ва ўзросце ад трох да трынаццаці гадоў. Галоўны апякун, айцец Марк Юрчук, вельмі перажываў усе складанасці.

— Сказаць праўду, у нас былі вялікія праблемы, — прызнаецца спадарыння Эва. — Проста не было добрай саломы. Для павука патрэбная простая, зжатая ўручную салома. Такой сёння і днём з агнём не знойдзеш!

Праўда, крыху матэрыялу прывезла з сабой іх інструктарка, у прыватнасці археолаг Кацярына Бяляўская, але гэтага ўсё роўна не хапала для такой вялікай колькасці ўдзельнікаў. У канцы, каб падтрымаць усіх на духу, айцец Марк прапанаваў у час чарговых майстар-класаў навучыцца выпякаць прасфору.

Чарговыя заняткі, якія ладзіць гайнаўскае „Малое брацтва", адбудуцца ўжо ў пасляСвяточны перыяд.

На канец два словы пра самога павука з саломы, якога звычайна напярэдадні Каляд рабілі маладыя дзяўчаты. Павук служыў аздобай і адначасова меў паспрыяць хуткаму прыходу вясны і дабрабыту ў сям'і і ў хаце ў новым наступаючым годзе. Хлопцы ў тым жа часе стараліся зрабіць найпрыгажэйшую гвязду, каб у час калядавання іх хвалілі і давалі яду або грошы.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### На ўроку рысунку

Весела навокал  
На рысунку ўроку.  
Дзеці заўзята  
Рысуюць сваіго тату.

— Чаму татка твой  
З блакітнай галавой?  
Адказала Ларыса:  
— Не маю крэйдкі лысай.

### Высновы

— Я магутны, як бык,  
Бо заўсёды ем мяса.  
Трэба ўзяць пад улік —  
Наймацнейшы я ў класе.

— А я аматар рыб,  
Аднак няма надзеі  
Што паплыву ў мора глыб,  
Калі плаваць не ўмею.



*Ганула Несцярэнка з Бяльніч*

# Лякарства на ўсякія беды!



Саламяны „павук" звычайна рабілі з апошняга зжатага снапка збожжа. Людзі верылі, што ў ім захоўваюцца ўсе добрыя сілы прыроды.

Самай старажытнай формай „павука" з'яўляецца шарападобны камяк. Круглы „павук" сімвалізаваў сонца. У найдаўнейшыя стагоддзі такія „павукі" выраблялі на Новы год, які ў старажытнасці славяне адзначалі вясной, звычайна 25 сакавіка. Разам з прыходам хрысціянства сталі рабіць іх пад Каляды. „Павукі" былі яшчэ рамбічныя і пірамідальныя. Сам павук у старажытнасці шанаваўся як стваральнік Сусвету. Яго канструкцыя — павуццінне — напамінала пра гармонію космасу. Нашы продкі верылі ў лекавыя і аздараўляльныя якасці павука. Ён лавіў у свае сеці злую энергію, сонныя кашмары, хваробы. Таму часта вешалі „павук" над калыскай дзіцяці, або ў чырвоным кутку, дзе садавілі маладую пару ў час вяселля.

Напрыканцы старога года „павук" спальвалі, каб на яго месцы павесіць новы.

ЗОРКА

# Калядна-навагодні конкурс (2)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Колькі разоў на Падляшшы святкавалі „каляду"?**

*а) адзін раз, вечарам да Божага Нараджэння,*

*б) тры разы: у вілею Божага Нараджэння, у вілею Новага Года, у вілею Вадохрышча,*

*в) у першы дзень Трох Каралёў.*

**2. Якая калядная страва, паводле нашых продкаў, мела паспрыяць у наступаючым годзе жыццёвай энергії?**

*а) аўсяны кісель,*

*б) торт з макам,*

*в) піца з грыбамі.*

**3. У якія СМІ ўсю ноч (з 13 на 14 студзеня) можна дасылаць навагоднія пажаданні?**

*а) у TVP Беласток,*

*б) у „Czasopis",*

*в) у Радыё Рацыя.*

**4. З якім беларускім спектаклем цягам мінулага года аж дваццаць разоў выступала беластоцкая моладзь?**

*а) „Мікітаў лапаць",*

*б) „Куль",*

*в) „Ой, даўно-даўно".*

**5. Які горад на Падляшшы ў сваім гербе памясціў елкі разам з пілой для высечкі лесу?**

*а) Кляшчэлі,*

*б) Саколка,*

*в) Гайнаўка.*

Адказы дасылайце да 15 студзеня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Рашэнне каляднага конкурсу № 12 у наступным нумары!

ЗОРКА

# Лыжны спорт і жахлівыя чары

*(нарыс з краіны шорцаў)*

Яшчэ сто гадоў таму сібірскі народ шорцаў атаясамлялі з кавальствам і жалезам. У гэтай справе шорцы праяўлялі вытанчанае майстэрства, якое для людзей звонку явілася чарадзействам. Невыпадкова. Працэс вытворчасці жалеза, таксама для нашых продкаў, явіўся магічным актам. У старых падляшскіх замовах часта з'яўляецца працэс гартавання сталі як сімвал аздараўлення. Магчыма, гэты „стальны" матыў прыйшоў да нас аж з паўднёва-заходняй Сібіры, з айчыны турэцкамоўнага народу шорцаў. Тут трэба дадаць, што шорцы пачаткова насялялі самы прыгожы куточак на зямлі: горнае цячэнне ракі Томі. Сёння яны пражываюць у Кемераўскім і Хакаскім раёнах, у Алтайскім і Краснаярскім краях у Расіі. Іх старонку ўсё часцей наведваюць турысты, асабліва любіцелі лыжнага спорту. І паклоннікі ўсякага роду жахалак! Бо нягледзячы на цывілізацыйныя змены, краіна надалей карыстаецца чарадзейнай славай. Вядома, там знаходзіцца пяць месцаў, у якіх дзеюцца неразгаданыя і таемныя справы. Мясцовыя называюць іх мёртвымі пунктамі і абыходзяць як найшырэйшым кругам. Паводле сведчанняў, там можна згубіць адчуванне часу і пачуццё спакою. Чалавек здольны ў такім месцы пабачыць мора крыві, сцяну агню, дасведчыць самыя прыкрыя і балючыя для сябе вобразы і адчуванні. Многія аматары жаху гінуць ад страху на месцы.



Мёртвыя месцы маюць свае каларытнае адлюстраванне ў міфалогіі шорцаў. У іх сустракаліся браты Ульген і Эрлік, уладары Горнага і Ніжняга светаў. Тут таксама практыкавалі, аж да прыходу хрысціянства, самыя вялікія шаманы. Яны заклялі і азначылі гэтае месца да канца свету. Бо магічныя месцы ніколі не заміраюць. Нават пасля тысячы гадоў перапынку яны здольны праяўляць сваю моц. У выпадку, калі іх сустракае непашана, яны люта і жахліва помсцяць людзям. Нашыя продкі ведалі як абласкавіць падобныя месцы. Звычайна ў старых месцах культу будавалі новыя святыні, якія разганялі ўсё незразумелае і нежаданае добрай энергіяй. Дабрыня — найбольшы лек чалавецтва.

Сёння на зямлі пражывае чатырнаццаць тысяч шорцаў. Большасць з іх праваслаўнага веравызнання, хаця ў апошні час пашыраецца ўплыў пратэстантаў, у прыватнасці лік вернікаў павялічвае секта неапяцідзесятнікаў. Хоць, як цвердзяць этнографы і этнолагі, хрысціянства ў краіне шорцаў вядомае з XVIII стагоддзя, і яно мае павярхоўны характар. Народ вяртаецца да старой культуры. Праўда, практыкі шаманізму ў іх выступаюць як літаратурна-тэатральныя пастаноўкі і яны не змагаюцца з пануючай рэлігіяй і прыжытымі святынямі.

ЗОРКА

# Музыка з кайфам

## ГУДзяць русалкі

**Дакладна невядома якая зараз пара года. Раслліннасць пачынае гудрэць, чакаючы ўжо вясны, мы з нецярплівасцю чакаем зімы. А на дне рэчак і азёр іх жыхары пэўна таксама да канца наўпэўненыя ці гэта ТОЙ час, таму дрэмлюць героіні фольк-песень, якіх знойдзем хаця б у рэпертуары гуртоў „Палац" ці „GUDA".**

Цікаўнасць журналістаў, тады і нашу, разбудзілі русалкі ў новым кліпе фольк-гурту „GUDA". Танцуюць яны, цешацца і пераважваюць сярод спелага калосся. Песня „За горэю крэмянэю" — як усе ў рэпертуары гэтага гурту — з народных крыніц. Русалка — ахоўны дух нівы. У розных рэгіёнах можа выглядаць па-рознаму, бо хаця асацыюецца з доўгімі русымі валасамі, то здараюцца чарнавалосыя. Бываюць апранутыя ў белае адзенне, але і голыя, раз гуляюць у збожжы ці гаросе, іншым разам гойдаюцца амаль на верхавінах дрэў, найлепш самых вялікіх, такіх як дуб ці ліпа. Гаворыцца, што русалкі гэта душы неахрышчаных дзяцей, якія зарана пакінулі сваіх бацькоў, таксама маладыя тапельніцы, якія скончылі жыццё самагубствам, а нават выклятыя дочкі, яшчэ ў матчыным чэраве. Страшныя гэтыя гісторыі, таму можа прыгажосць русалак ажно коле ў вочы, чаго доказам з'яўляюцца іх выявы ў згаданым новым кліпе, які знойдзеце па адрасе: http://www.youtube.com/watch?v=F0EXkeJHcDY. Але не чакайце толькі і выключна архаічных спеваў, бо якраз у гэтай песні ёсць інструментальная, сучасная аранжыроўка.



Эх, русалчыныя блакітныя вочы не адзін раз абманулі людзей, таму бацькі вельмі часта перасцерагаюць перад русалкамі менавіта дзяцей. І, нягледзячы на факт ці ёсць яны сапраўды, ці толькі ў міфах, дзеці ад страху не палезуць тантаць збожжа. А і вы можа задумаецеся летам ці варта бегчы ў дзедавае збожжа, асабліва апоўдні, бо русалкі гэтай парою чакаюць сваіх „ахвяр". Але і яны становяцца ахвярамі ў час сенакосаў. Можа гэта не сцэны як з фільма жахаў, але разам са збожжам памірае проста дух ніў. Як? Гэта таксама можам убачыць у кліпе „За горэю крэмянэю". Таму падумайце часам цёпла пра русалак. Восенню яны зноў знікнуць, каб нарадзіцца вясною.

i_basovka@o2.pl

# Галерэя ЗОРКІ



Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Адам Харкевіч (Гімназія ў Нараўцы).

**2. Твой любімы прадмет:** беларуская мова, матэматыка.

**3. У жыцці хачу стаць:** не ведаю, бацькі заахвочваюць паступаць на палітэхніку.

**4. У сяброў цаню:** калі можна ім даверыць тайны, пагаварыць аб праблемах.

**5. Не люблю:** пляткарства.

**6. Па-беларуску размаўляю:** з бацькамі.

**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** пакуль няма.

**8. Падабаецца мне музыка:** дыскапола.

**9. Твае ўлюбёныя стравы:** смажаны шчупак або акунь з Нарвы.

**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю хадзіць на рыбалку.

**11. Калі дарасту, хачу жыць:** у Беластоку, каб было блізка да сям'і, якая жыве ў Новай Луцэ.

*Адам ХАРКЕВІЧ*
*Новая Лука*

## Жыццё вучня

*Вучню добра жыць на свеце*
*Бацькі мне казалі.*
*А рабіць хатнюю працу*
*Не дапамагалі.*

*Колькі часу ўсё займае,*
*Не ведае той,*
*Хто камп'ютара не мае,*
*І добрых сяброў.*

*Сядзе вучань у пакоі,*
*Кніжкі раскладае,*
*А экран яго „кампутра"*
*Ужо прыпамінае:*

*— Хадзі хутка на падворак,*
*Цябе там чакаюць,*
*Хлопцы гульні на пляцоўцы*
*Ужо пачынаюць.*

*Трэба кінуць усе ўрокі*
*Яны ж кожны дзень.*
*Хто так робіць? — запытаеш.*
*Найвялікшы лень!*

# Польска-беларуская крыжаванка № 2

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеенным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 50:

Нос, прылада, прамоцыя, асоба, дыван, кок, до, як, труна. Ідэя, справа, раса, Сымон, лоб, ну, мацак, ды, ура, даярка.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Габрыся Селівонюк** з Нарвы, **Дарота Артышук** з Гайнаўкі, **Альжбета Харкевіч** з Нараўкі, **Каміль Нестэрчук** з Дубін, **Дыяна Саўко** і **Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Związek | Foto / Lato | | Wędkowanie | |
| | Hit / Rok | Złoty / Swój | | | | | |
| | Świat | | | | | | |
| Sukces / Święto | | | | | | | |
| Poza | | | | | Mi | | |
| | | | | | | Jol | |
| Rój | | Księga | | | | | |






Вера МАСАЙЛА
**III месца ў катэгорыі паэзіі**

## Гайнаўка

*Гайнаўка малодшая сястра*
*кветкі папараці*
*з Белавежскай пушчы*
*схаваная ў цяні елак*
*і блакіце нябесных лугоў*

*Ты люстранае адбіццё Аліны*
*сястры нікчэмнай Баладыны*
*Ты градам мар і спакоем*
*цёплай бацькоўскай далоні*
*ты музай майго сэрца*

*Твае рукі штораз бліжэй неба*
*у тваіх нагах пянёчак закаханых*
*далей ружы васількі незабудкі*
*а на іх пялёстках нявыказаныя словы*

*Дрыжачых лісткоў заплаканыя вочы*
*пакрытыя шэранню галоўкі травы*
*Па зорным небе месяц крочыць*
*і снегу першая пушынка ўпала*

*Гайнаўка месца майго дзяцінства*
*тут драўляны конік і лялька з ануч*
*Тут мая першая пяцёрка і першая няўдача*
*з мокрымі вачамі ўспамінаю гэта ўсё*

## Як добра

*Як добра што*
*бацькоўскі панадворак*
*не зарос яшчэ дзёрнам*
*што ў асеннім сонцы*
*купаецца сасновая хата*
*што векапомны коварат надалей*
*сцеражэ жывую ваду*
*Як добра што з-за занавескі*
*старэнькага акна*
*смяюцца да нас*
*бадзёрыя вочы бацькі*
*Як файна пачуць у сенях*
*рытм танца мамінага кія*
*а яшчэ лепш цёплы*
*шэпт з яе вуснаў:*
*дзіцятка сядзь адпачні!*



Павел Марыюш БІРЫЦКІ
**II месца ў катэгорыі паэзіі**

## Вечар у Семяноўцы

*Мая малая айчына*
*Да сну рыхтуецца*
*Ужо ліхтары гараць*
*Ужо свечы ў вокнах гаснуць*

*Прыгожая ноч зараз наступіць*
*Ад штодзённых работ адпачынак*
*Вечар у Семяноўцы канчаецца*
*І жыхарам раптоўна спыняецца час*

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Мак тады быў вельмі смачны

**У снежаньскі цёмны ранак падалася я да маёй добрай знаёмай спадарыні Марыі Кулакоўскай, родам з Крушынян. Мэтай майго візіту было запаўненне чарговай белай плямы мясцовага народнага календара. Я хацела даведацца як мае земляки калісь праводзілі час Піліпавага посту. Пані Марыя сустрэла мяне ля дзвярэй з пруткамі ў руках. Адразу запрасіла кіравацца ў гасцінны пакой, пакуль свайго не паспела прыбраць. Перад ёю вялікае заданне — унучцы патрэбны новыя цёплыя рукавіцы, іх трэба звязаць да пяці вечара — да ад'езду апошняга аўтобуса з Крынак у Беласток. Вязаніна твораная нашай гераіняй атрымлівалася вельмі роўненькай і акуратнай. Селі мы за вялікім сталом накрытым сурвэтай зробленай на кручку. Пані Марыя, не адводзячы вачэй ад пруткоў, пачала свае ўспаміны:**



Марыя Кулакоўская

„Калісь у нас казалі: „Піліп дзяцей адзявая"; у піліпаўку трэба было напрасці, вечарэ доўгія і працавітыя былі, хто праў, хто вязаў...

У нашым календары Піліпаў пост папярэднічае вялікаму святу Ражджаства Хрыстова. Ён пачынаецца ў лістападзе з дня Піліпа. У гэты пост людзі высцерагаліся танцаў, гулянак, ішлі да споведзі, але тут, у Крушынянах, дыеты спецыяльнай не трымаліся. Хто пасціў, хто не пасціў, — увагу звярталі толькі да пачатку і канца посту. Перад Калядой — тады быў ужо пост, стараліся каб і стравай, і паводзінамі надта не награшыць. Харчаваліся ў тую пару года пераважна параным гарохам, фасоляй, бобам, пяклі бульбяную бабку. Талерак тады не было, таму ў міску нальюць алею, насыплюць солі і мачаюць у гэтым вараную ў мундзірах бульбу. Да таго падавалі квашаную, залітую алеем капусту. Кавы і гарбаты таксама калісь не ведалі. Бабку найчасцей запівалі падгатоўленым з маку „быковым малаком". Мак калісьці быў вельмі смачны, высушаны, дакладны, салодкі, не горкі, як сёння... Яго малолі, чакалі пакуль пусціць белы сок, залівалі вадой, хто меў чым — то прысалодзіць, хто не меў — то несалоджаны папівалі. Яшчэ рабілі напой з канаплянага семя, таксама молатага і залітага вадой. На піліпаўскіх сямейных сталах часта можна было пасмакаваць варанай картоплі з расолам гатоўленым з цыбулі, вады і хлебнага натуральнага квасу з дзяжы; воцату не дадавалі. Зімой малако рэдка паяўлялася на сталах. Як толькі каровы зыдуць з поля, зараз і запускаюцца, не на тыдзень, як цяпер, а на паўгода. Гаспадары кармілі іх вельмі сціпла: натрасуць ім саломы, жменьку сена, сечкі (сечаных картопляў) крыху падкінуць. Бацька трымаў у хляве чатыры каровы; бывала, як пойдзе даіць, то з чатырох адно вядро назбірая.

Кароткія зімовыя дні мужчыны найчасцей праводзілі ў стадолах. Трэба ж было абмалаціць усё збожжа да Каляд. Тады ні камбайнаў, ні малатарняў не было. Усё цэпам рабілі, адзін дзень малацілі, на другі веялі. Веяльні таксама не было, карысталіся савочкамі — паўкруглымі, вялікімі шуфлямі, зробленымі з бляхі, з драўлянай ручкай.

Вясковыя жанчыны ў гэты час збіраліся на кудзельніцы. Раней спатыкаліся ў трох равесніцкіх групах: старэйшых, малодшых і наймалодшых. Пазней ужо ўсе разам, і старыя, і маладыя з усёй вёскі збіраліся, толькі з-за Гарэ (частка Крушынян) не прыходзілі. Пачыналі прасці ў пятнаццаць гадоў, тады яшчэ ў школу трэба было хадзіць. У Крушынянах школа была чатырохкласня. Хто не думаў далей вучыцца, то тры гады ў чацвёрты клас хадзіў, а хто хацеў, паступаў у крынскую гімназію.

Як каторая гаспадыня хацела, каб да яе прыйшлі (а бывала, што і па чарзе хаты выбіралі), то ўжо з самага ранку зносіла да сябе прасніцы, калаўротак кожная жанчына прыносіла з сабою. Рабілі да трэцяй гадзіны; яе звалі шэрай, таму што ў тую пару пачынала балвець: на свет было зарана, а на работу зацёмна. У шэрую гадзіну дзяўчаты часам лягалі спаць, чакаў іх яшчэ доўгі рабочы вечар — працу канчалі ў адзінаццаць-дванаццаць ночы. Уперад тая гаспадыня, у каторай кудзельніцы збіраліся, усім гатавала есці. Але яна больш нічога не паспявала зрабіць, таму рашылі на абед разыходзіцца па хатах. Пасля шэрай гадзіны запальвалі свет: як назбіраецца кампанія, то павесяць лямпу пасярэдзіне хаты на доўгім дроце і круга яе сядаюць. На кудзельніцах рабіць не вучылі і ніхто нікога не правяраў. Першых прахаў — папрандэляў садзілі вал на мяшкі з найгоршага клочча прасці. Больш разбіраючымся ў дзеле давалі з далікатнейшых камлёў мяшэчкі на муку прасці, з канопніны рабілі прасцірадлы і кальсоны мужчынам, кужаль — ільнаное палатно было на кашулі, а яшчэ ткалі вузейшае палатно на ручнікі і шырэйшае з узорамі — на абрускі.

Стараліся працаваць хутка і добра, каб было з чым дахаты вяртацца. Нават спяваць не было як, бо як спяваць — то не рабіць, а то потым маці скажа: „А што ты там рабіла?"

На вечарках таксама прысутнічалі вясковыя мужчыны, праўда, іх роля была крыху другая. Як каторы кавалер меў на якую вока, то падсаджваўся да яе і змятаў цермець з полу, потым дахаты адводзіў. Былі і такія фокусы, што возьмя і падпаліць кудзелю паненцы, або шнура скіне; так жылі — „спалі врозь, а дзеці ў іх былі".

Мужчыны развесялялі і ўпрыгожвалі кудзельніцы перш за ўсё сваім спевам. Трэба было так зацягнуць, „каб лямпа згасла"! Выконваліся ўсялякія песні, у тым ліку і святыя, як малітва „Хрыстос раждаецца — славіце". Калядак у пост не было. У свецкі рэпертуар часта ўключалі „Слаўнае морэ свяшчэнны Байкал", „Па дзікім сцепям Забайкалля". Віцько Папкоў так быў напіўся, што пасварыўся з бацькам і ўцёк за граніцу, а яна была ў крушынянскім полі; гэты грэх маладосці адпакутаваў у турме, трымалі яго цэлы год. Вярнуўшыся, спяваў:

*Глухой неведамай тайгою сібірскай*
*дальней стараной*
*бежаў брадзяга з Сахаліна*
*зверынай узкаю трапой.*
*З адной дзевчонкой павстрэчался,*
*з каторай раньше быў знаком*
*і перад нею он сазнался,*
*што он із каторгі ушол.*
*Ана пайшла і заявіла*
*і я апяць у цюрму папал,*
*Здароў, цюрма, ты мне знакома*
*і той цюрэмны карыдор,*
*і ты брадзяга жэ начальнік*
*і ты сабака пракурор.*

Падчас посту, увечары, перад Андрэем, дзяўчаты займаліся варажбой на будучае замужжа. Замыкалі нанач вядро пры студні, каб суджаны прысніўся і папрасіў каня напаіць. Каноплі сеялі ўначы кругом студні, гаворачы: „Андрэю, Андрэю, на табе каноплі сею, хачу знаць, з кім буду век векаваць" (або больш жартоўны варыянт „... з кім буду ў цэбар сцаць").

Вядро, цэбар ці балею паненка залівала вадой і накрывала кладкай, па якой у сне суджаны меў яе перавесці. На Андрэя ламалі вішню, якую ставілі ў хаце ў цёплым месцы ў ваду; чакалі да Крашчэння, ці зацвіце — гэта мела гарантаваць поспех ва ўсім задуманым. Каб пабачыць у сне свайго будучага мужа, паненкі кладучыся спаць гаварылі дзевяць раз малітву да Багародзіцы. Калісь я, дурная, варажыла, але і праўда прыснілася. Прыснілася мне, што зышло слонка, што ўзыходзіць яно там дзе ў нас у Крушынянах заходзіць, і так падышло як да палудня падыходзіць, але было за мглой, няяснае, і цэла маё жыццё было за туманом...

Супольныя снежаньскія верчаркі-кудзельніцы праводзіліся ў Крушынянах да пяцідзесятых гадоў, потым усе дзесьці пажаніліся і параз'язджаліся...".



■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Да 180-годдзя Міхалова (2)

**Здарыўся цуд: на працягу тыдня Міхалова пастарэла ў мяне аж на шэсцьдзесят гадоў... Народная мудрасць гаворыць, што адна хвіліна можа вызначыць ход падзей на многія гады. Гэтак жа і мая хвіліна няўвагі тыдзень таму вызначыла „гады” Міхалова, якіх я, з-за менавіта хвіліны няўвагі, налічыў тады толькі 120. А гэта няпраўда, бо развіццё мясцовасці пачалося ў выніку ўвядзення таможнай польска-расійскай мяжы пасля Лістападаўскага паўстання 1831 года. Каюся за дапушчаны мною промах, прашу прабачэння ва ўсіх зацікаўленых міхалоўскімі падзеямі асоб, асабліва ж у вядучай канферэнцыю спадарыні дырэктар Гарадскога асяродка культуры Альжбеты Паліноўскай, якая гэтую стовасьмідзесятку назвала ўсенародна ўголас. А цяпер вяртаюся да дакладаў, без упэўненасці, што ў чарговы раз не дакажу трываласці старажытнейшай мудрасці — errare humanum est.**

Доктар **Віталь Карнялюк** з Гародні, аўтар нарысу мінулага Крынак у XIX стагоддзі, расказаў пра Міхалова напярэдадні і ў час Першай сусветнай вайны. Міхалова сярод навакольных мясцовасцей адзначалася значным адсоткам нямецкага лютаранскага насельніцтва, якому вайна вызначыла адмысловую ролю. На нашай тэрыторыі было шмат крэпасцей — гродзенская, асавецкая, брэсцкая, якія акружалі наш рэгіён. Калі з пачаткам вайны было аб'яўлена ваеннае становішча, яно вызначалася асаблівымі мерамі ў нашым фартыфікацыйным рэгіёне. Немцы ў наша наваколле былі раней па сутнасці запрошаны дзеля арганізацыі тут прамысловасці. А калі пачалася вайна, іх па сутнасці вышвырнулі адгэтуль, загадалі з'ехаць. У Гродзенскай губерні ў 1914 годзе пражывала каля пятнаццаці тысяч лютаран, а гэтая іх канцэнтрацыя не асталася па-за ўвагай ваеннага расійскага кіраўніцтва. Ужо ў 1914 годзе царскія ўлады загадалі немцам забраць сваю маёмасць і выехаць на ўсход. Міхалоўскім немцам улады загадалі ехаць у Архангельскую губерню, у мястэчку было ліквідавана трыццаць пяць прадпрыемстваў, што практычна ліквідавала тут усю прамысловасць а насельніцтва паменшала на адну трэць. Ваенны лёс немцаў у Расійскай імперыі быў складаны. Да іх, з аднаго боку, быў вялікі недавер, таму іх выселілі з ахопленай вайной тэрыторыі, але калі яны з'ехалі ў новыя месцы, іх мабілізавалі ў расійскую армію. І варта пры гэтай нагодзе адзначыць, што калі з ходам вайны пачаліся працэсы распаду дзяржаўнасці ў Расіі, то менавіта немцы ў расійскай арміі захавалі найбольш дысцыпліны і лаяльнасці да Расіі. І няма ніводнага прыкладу, каб гэтыя расійскія немцы пабраталіся з немцамі кайзераўскімі. Вайна катастрафічна паўплывала на Міхалова. Страта тым большая, што нямецкае насельніцтва было вельмі працаздольнае, вельмі арганізаванае, падпарадкаванае пэўным прынцыпам. Яно стварыла невялічкія падмуркі, на якіх можна было развіваць увесь навакольны край.

**Тацяна Касатая** з Гародні расказала пра лютаранскую абшчыну на зломе XIX і XX стагоддзяў. У 1832 годзе ўладальнік Нязбудкі заснаваў у сваім маёнтку калонію для фабрыкантаў суконнай прамысловасці і сюды паступова сталі з'язджацца немцы і ўжо ў 1860 годзе тут працавала шэсцьсот пяцьдзесят чалавек — у іх ліку чатырыста пяцьдзесят лютаран — на чатырох фабрыках. У 1868 годзе міхалоўскія немцы атрымалі расійскае падданства і з гэтага моманту пачынаецца найбольш дынамічнае развіццё мясцовасці. У 1857 годзе Севярын Міхалоўскі падараваў нямецкім каланістам пляц для пабудовы малітоўнага дома і школы, дазволіўшы браць будаўнічы матэрыял са свайго лесу. І ўжо ў 1861 годзе працы па ўзвядзенню лютаранскай кірхі былі завершаны. Быў гэта драўляны будынак сем на пяць сажняў (1 сажань = 2,13 метра) пакрыты дахоўкай. У лютаранскім вучылішчы ў 1868 годзе навучалася 48 хлопцаў і 45 дзяўчат. У канцы XIX стагоддзя драўляны малітоўны дом, які мог умясціць пяцсот вернікаў, ужо не мог задавальняць патрэб мясцовай лютаранскай абшчыны, якая налічвала тысячу дзвесце чалавек, таму ў 1895 годзе была ініцыявана пабудова новай, каменнай кірхі. Новы храм быў узведзены ў неагатычным стылі, на яго вежы быў усталяваны гадзіннік... У 1897 годзе пачалося таксама будаўніцтва новага малітоўнага дома ў Міхалове. Міхалоўская лютаранская парафія была ў той час найбуйнейшай у беластоцкім наваколлі. У самім Беластоку было 750 лютаранскіх вернікаў (у тым ліку 500 немцаў), у Супраслі — 320 чалавек, у Кнышыне — 63 чалавекі, а ў Міхалове — 850 чалавек; у апошніх трох мясцовасцях усе лютаране былі немцамі па нацыянальнасці. У Міхалове этнаканфесійная прыналежнасць вызначала і пазіцыю ў грамадстве: немцы пераважна з'яўляліся ўладальнікамі фабрык і займалі прывілеяваныя адміністрацыйныя пасады. У 1905 годзе ў Міхалове паўстала крэдытна-пазыковае таварыства, якое спачатку хацелі стварыць жыды, але ўлады вырашылі даверыць гэтую справу немцам. У Міхалове ў той час дзейнічалі тры прадзільныя фабрыкі, чатырнаццаць суконных, дзевяць трыкатажных, пяць воўнапрадзільных.



Доктар **Лена Глагоўская** з Беластока, якая сваю сярэднюю адукацыю здабывала менавіта ў Міхалове, расказала пра ксяндза Яна Семашкевіча, беларускага паэта, які прыняў літаратурнае прозвішча Янка Быліна. Нарадзіўся ён у 1883 годзе ў Лакцянах на Віленшчыне, якія зараз у беларускай прыгранічнай паласе з Літвой, у Клюшчанскай парафіі, з якой выйшла шмат святароў, якія ўнеслі ўклад у беларускую літаратуру. Закончыў ён Віленскую духоўную семінарыю, служыў у розных мясцовасцях, наогул на Віленшчыне. З 1917 да 1928 года быў пробашчам у Лаварышках, пазней у Дукштах, да 1933 года, калі адмовіўся ад пасады... У 1918 годзе выйшаў зборнік ягоных вершаў „На прызбе”, пазней выйшлі іншыя творы. Да таго ж ксёндз Семашкевіч гаварыў казанні на мясцовай мове, беларускай. У 1933 годзе быў ён назначаны вікарыем у парафіі Янаў, што ў нашым Сакольскім павеце; тут таксама пісаў вершы і пасылаў іх у Вільню. У 1934 годзе выйшаў ягоны чарговы зборнік вершаў „На покуці”, які зацікавіў паліцэйскіх. У выніку ксёндз Семашкевіч трапіў у 1937 годзе ў нашую Ялоўку, што цяпер у Міхалоўскай гміне, дзе служыў два гады, да 1939 года, пробашчам у парафіі святога Антонія, у тым касцёле, які служыць ялоўскім католікам да сёння. Восенню 1939 года Ян Семашкевіч становіцца пробашчам парафіі ў Міхалове. Ён надалей піша вершы. Спадарыня Лена Глагоўская звярнула ўвагу на вельмі папулярнага ў час вайны аўтара, які вершы ў „Новай Дарозе” падпісваў псеўданімам Шэршань. Паводле яе, якая супаставіла вершы Шэршня і ксяндза Яна Семашкевіча, яны могуць быць з-пад пяра аднаго аўтара, і магчыма, што пад псеўданімам Шэршань пісаў менавіта Ян Семашкевіч. Зараз пасля вайны новыя ўлады назначаюць ксяндза Семашкевіча сябрам Гміннай рады ў Міхалове! У 1946 годзе касцельныя ўлады пераводзяць ксяндза Семашкевіча ў Бомблю, што недалёка раней згаданага Янава, дзе вернікі пабудавалі грамадскім чынам — не пытаючы ў нікога дазволу: ні ў касельных, ні ў дзяржаўных улад — касцёл; цяпер гэты касцёл, пасля ўзвядзення ў Бомблі новага храма, перанесены ў Грабоўку пад Беластокам. Ды і тое перавядзенне ксяндза Семашкевіча ў новую парафію адбылося таксама незвычайна. Менавіта арцыбіскуп Раман Ялбжыкоўскі, мабыць не надта задаволены самаволяй вернікаў, якія папрасілі ў яго назначыць у свой саматужна пабудаваны касцёл ксяндза, адказаў ім, што калі яны такія самадзейныя, дык павінны самі пашукаць сабе ксяндза... У Бомблі 18 лютага 1956 года ксёндз Ян Семашкевіч памірае; пахаваны ён пры тамашнім касцёле.

*І так наступае ноч*
*І так ліхтары гаснуць*
*Астаецца змрок*
*Крок да наступнага дня*

## Паядынак

*Ноччу над вадасховішчам*
*Сабраліся анёл і чорт*
*Каб стаць да дуэлі*
*За лёс гэтай зямлі*

*Анёл супакойвае шумам вады*
*Чорт іграе пякельную гаму*
*А людзі бачаць гэты*
*На нябачнай арэне бой*

*Чорт з храпам адыходзіць*
*У прорву свайго княства*
*Прыйшоў дзень перамогі*
*І добрыя перамаглі зло*

## Каваль

*Паветра напаўняе дым*
*Жар ліхтароў яго рассвятляе*
*А здалёку быццам гонг*
*Кліча мяне да сябе*

*У крыніцы гэтай ноты*
*Каваль куе падковы*
*Калісь людзі захапляліся ім*
*Сёння забыліся пра яго*

*Постаць каваля ўжо знікла*
*Асталася толькі легенда*
*А перад кузняй магіла*
*Чалавека — вартаўніка традыцыі*



Міхаліна ГЕРАСІМЮК
**І месца ў катэгорыі паэзіі**

## Смерць

*пахавальнаму бюро*
*за акном*

*За маім акном*
*Пасялілася Смерць*
*Яна існуе*
*Каб нехта памёр*
*Я гляджу праз акно*
*І бачу яе*
*Раз з касою ў руках*
*Другі раз — у труне*
*Яна бачыць мяне*
*Ды махае рукой*
*Запрашае з сабой*
*Я кручу галавой*

*Смерць жыве за акном*
*У вачах яе — я*
*І мяне ўжо няма*
*І яна там дзе я*
*Спазіраю на Смерць*
*Яна бачыць мяне*
*Я кручу галавой*
*Яна крочыць далей*

* * *

*самотнае дрэва*
*абрастае імхом*
*сумнае дрэва*
*стаіць там адно*
*свае голыя рукі*
*цягне ў неба*
*нема крычыць*
*яму туды трэба*
*кожны хоча ў неба*

# Шукаю Дзмітравую Маньку



*Дзміцер са сваёй сястрой Ганнай ды старэнькімі бацькамі вымушаны былі выехаць у бежанства падчас І сусветнай вайны ў глыб Расіі. Апынуліся яны ў заходняй Сібіры. Там Дзміцер, малады і стройны юнак, стаў працаваць у аптэчным складзе. Усе яго палюбілі, бо быў сумленным працаўніком і на той час пісьменным чалавекам. Пасля года працы наступіла бяда: Дзміцер захварэў сухотамі, яго лёгкія пачалі гніць. Фельчар, які працаваў у гэтым самым складзе, сказаў Дзмітру, каб ён не баяўся сухотаў, а ён яго вылечыць. Пачаў лячыць хлапца зёлкамі. Дзмітру стала лягчэй, а потым і добра, — так і вылечыўся. Там у Сібіры паўміралі Дзмітравы бацькі, а ён застаўся з сястрой. Пазнаёміўся са служанкай Вольгай, родам з Навагрудка. Павянчаліся.*

*Вярнуліся Дзміцер з жонкай і сястрой у 1921 годзе на радзіму, дзе ўсё было спалена, а на сядзібе рос малады лес. Цяжка было ўсё пачынаць з нуля. А тут да Ганны стаў сватацца недалёкі сусед Мікалай. Ганна ўзяла ад брата пасаг — чацвяртуху зямлі, яму таксама засталася чацвяртуха (гэта каля 5 гектараў) розных угоддзяў, ды слабенькай зямлі. Пачалі Дзміцер з Вольгай жыць у зямлянцы, жабраваць і наймацца да розных работ у багацейшых сялян або ў католікаў (яны не выязджалі ў бежанства).*

*У 1924 годзе нарадзілася ў іх дачка, назвалі яе Манькай. Паколькі ў іх было так мала зямлі і жылі яны бедна, Вольга наймалася ў вёсцы пасвіць свіней. Гаспадары кармілі яе па чарзе і давалі торбачку з ежай у поле. У поле Вольга забірала маленькую Маню. Маці давала ёй свой абед, каб накарміць дзіцятка.*

*Пабудавалі Дзміцер з Вольгай невялікую хатку, хлеў і стадолу, і так памаленьку штогод ім лепш жылося. Манька падрасла, пайшла ў школу ў сваёй вёсцы і закончыла 4 класы. Божаму закону вучыў іх тады бацюшка Гуткоўскі з Трасцянкі. Калі спытаўся ён у Манькі, кім быў Майсей, то сяброўка ёй падказала: „Майсей, Майсей, купіна гарыт". Вось за гэта Маньцы і яе сяброўцы Гандзі дасталася ад бацюшкі! Выклікаў ён бацькоў у школу.*

*Калі ў 1939 годзе ўсходнюю частку Польшчы занялі савецкія войскі, тады загаварылі, што „маладым вездзе дарога, старыкам вездзе пачот". Моладзь стала спяваць ды весяліцца. Калі ў 1941 г. гітлераўская Нямеччына напала на Савецкі Саюз, ізноў пачаўся тэрор па гарадах і вёсках. Пачалі немцы моладзь, а нават цэлыя сем'і вывозіць на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Разам з маладымі забралі і Маньку, завезлі за загараду з калючага дроту ў Супраслі каля Беластока, ды адтуль ноччу моладзь уцякла. З нашай вёскі астаўся толькі Іван Семянюк, сын Дзмітравага швагра. Калі немцы прыехалі ў вёску па тую моладзь, што ўцякла з Супраслі (а гэта было па жніве, не памятаю ці ў 1942, ці 1943 годзе), моладзь пахавалася. Дзміцер з Вольгай у стадоле паміж снапы жыта паставілі санкі — і туды схавалася Манька; суседзі аб гэтым ведалі. Мікалай, якога сын застаўся за дротам у Супраслі, сказаў немцам, дзе бацькі схавалі Маньку. Чуў тое 9-гадовы хлапчук Коля, пабег хутчэй дахаты і расказаў усё сваёй сястры Гандзі. Гандзя сказала Колю: „Бяжы хутчэй па-за стадоламі, скажы Маньчыным бацькам, хай хутчэй Манька ўцякае да нас, бо зараз немцы яе забяруць!". Маньку паспелі выцягнуць з-пад жыта і яна схавалася ў стадоле дзядзькі Сэлевейстра ў сена. Немцы пайшлі да Дзмітравай стадолы, выкінулі ўсе снапы жыта, пакінулі адзін радок і сталі штыкамі пароць у кожны сноп. Калі нічога не знайшлі, сталі біць Дзмітра. Так Манька да восені застался жыць пры бацьках. На Пакрову, 14 кастрычніка, немцы яшчэ зацямна акружылі вёску, забралі ўсю тую моладзь, што ўцякла з Супраслі і павезлі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Разам з імі забралі і Дзмітраву Маньку.*

*Пасля вайны Манька шчасліва вярнулася дамоў і жылі ўсе трое разам. Манька прыгожа вязала на прутках і так сабе падзарабляла ў доўгія зімовыя вечары. Пасля, калі шмат моладзі пайшло працаваць у горад у міліцыю, Манька таксама там знайшла працу. Выйшла замуж за Петрука, нарадзіліся ў іх два сыны. Бабуля Вольга вельмі шкадавала ўнукаў і забрала іх гадаваць у вёску. Манька з мужам жылі ў Беластоку па вуліцы Слонімскай у доме № 4 (калі я цяпер еду ў паліклініку па гэтай вуліцы, зайсёды гляджу на гэты дом). Пятрук пачаў многа піць, выносіць усё з хаты, і Манька была вымушана ўзяць з ім развод. Памёр Пятрук ад гарэлкі, памёр і адзін сын, аб другім мне нічога невядома. Выйшла замуж Манька другі раз, за Вітака, і перабраліся яны з вуліцы Слонімскай у блок, у суседстве кааператыва невідучых; памятаю, што іхняя кватэра мела нумар 1, а пад акном расла сліва. Нарадзіўся ім яшчэ адзін сын Весек; па другім мужу ў Манькі было прозвішча Лук'янюк.*

*Калі Маня развялася была з першым мужам, Дзміцер пайшоў працаваць у Беласток і быў гэтак званым „пляцовым" у электрастанцыі. На вёсцы след прапаў па іхняй сядзібе. Калі ў 1960 годзе давялі ў вёскі Сацы, Трасцянку і Бялкі святло, нас тады абслугоўвалі манцёры з Заблудава. Калі ў асеннюю буру папсавалася ў вёсцы святло і жыхар вёскі Бялкі заехаў у Заблудаў да манцёраў папрасіць, каб паладзілі электраток, то пачуў у адказ ад манцёра Каліноўскага (няхай яму зямля будзе пухам!): „Без паўлітра с..кі з крэсла не падымаю"; селянін з гэтым адышоў і расказаў пра яго паводзіны ў вёсцы. Заразпасля таго ў наступную суботу Мікалай быў у Беластоку, пайшоў у электрастанцыю. Там убачыў Дзмітра з мятлой на пляцы. Расказаў пра справу, а Дзміцер кажа: „Ты мне ўратаваў дачку ад смерці, хадзі, памагу табе".*

*Мікалай расказаў чыноўнікам з электрастанцыі пра заблудаўскіх манцёраў і пачуў у адказ: „Едзь спакойна дадому, заўтра да 10 гадзіны ўсё будзе ў парадку". Так і было — у нядзелю ўсё паладзілі.*

*Памерлі Дзміцер, ягоная жонка Вольга, Дзмітраў швагер Мікалай з жонкай Ганнай, Маньчын другі муж Вітак. Сын Весек праўдападобна ажаніўся і выехаў з жонкай на працу за мяжу, а Манька са сваім сватам гадавалі ўнукаў.*

*Цяпер Мікалаю, які выратаваў Маньку ад смерці, 77 гадоў. Калі яшчэ Манька жывая, хацеў бы з ёю спаткацца.*

*Можа, хто-небудзь ведае Маньку — няхай адгукнецца праз „Ніву".*

***Мікалай ЛУК'ЯНЮК***




Апошнія месяцы 2011 года для беларускага інтэрнэту былі адзначаны неверагоднай падзеяй. У Сеціве з'явіўся так званы „інтэрактыўны ўсебеларускі партал", які, па задумцы яго стваральнікаў і праматараў, мусіць стаць ледзь не ўсебеларускай Вікіпедыяй.

Назва сайта таксама гучная — „Усе Беларусы", што само па сабе акрэслівае яго абшар уплыву. Змешчаны па адрасе **www.usebelarusy.by** сайт нібыта запрашае ўсіх, хто лічыцца беларусам, не толькі знаёміцца са сваім народам і Рэспублікай Беларусь праз матэрыялы на сайце, але і знаёміць беларускі народ са сваёй сям'ёй, сваім горадам альбо вёскай, гісторыяй сваіх родных і блізкіх у кантэксце агульнабеларускай гісторыі. Для гэтага распрацоўшчыкі сайта запрашаюць усіх стаць так званымі народнымі журналістамі і дасылаць допісы і фотаздымкі на сайт.

Шырокай грамадскасці сайт быў прэзентаваны на адмысловай прэс-канферэнцыі, якая адбылася 27 снежня ў Магілёве на прадпрыемстве „Бабушкина крынка", што вырабляе малочную прадукцыю, і стала галоўным яго спонсарам.

Як адзначыла аўтарка праекта інклюзіўнага сацыяльнага маркетынгу дырэктар Цэнтра сістэмных бізнэс-тэхналогій „Сатіо" Жана Грынюк, сайт „фармуе новую нацыянальную культуру". „Нашы даследаванні паказалі, што Беларусь уваходзіць у новую хвалю патрыятызму. Гэта ўжо не будзе асацыяцыя — хто размаўляе па-беларуску, то гэта прадстаўнік БНФ ці апазіцыянер. Мы прыходзім да беларускага нацыянальнага патрыятызму ўжо на іншай канструктыўнай хвалі. І вельмі важна, што „Бабушкина крынка" фармуе лаяльнасць да свайго прадпрыемства, прадстаўляючы магчымасць дакрануцца да агульнанацыянальнай беларускай вялікай справы", — кажа Грынюк.

Сайт пакуль цалкам беларускамоўны, але у далейшым плануецца запуск рускай, англійскай, нямецкай і польскай моўных версій. Гэта ўжо робіцца, зразумела, для замежнага наведвальніка.

Цікава, што „Бабушкина крынка" — спонсар праекта, чый лагатып месціцца ўверсе на кожнай старонцы сайта, на сёння з'яўляецца адным з найбуйнейшых прадпрыемстваў малочнай вытворчасці ў Беларусі. Немалую падтрымку „Крынка" знаходзіць у вышэйшага кіраўніцтва краіны і, у прыватнасці, у Аляксандра Лукашэнкі, які калісьці казаў, што на беларускай мове нічога разумнага сказаць нельга і што ёсць толькі дзве вялікія мовы — руская і англійская.

Зыходзячы з вонкавых назіранняў, стаўленне беларусаў да сваёй мовы і гісторыі за апошнія гады калі і змянілася, то толькі ў горшы бок. Мова, маўляў, нікому не патрэбная, а ў Мінску станцыі метро „Плошча Незалежнасці" вернута былая назва „Плошча Леніна".

Але спонсары не зважаюць на гэтыя акалічнасці, бо цалкам упэўненыя ў тым, што „праект мае права на існаванне".

„Мы не прызвычаіліся спыняцца на дасягнутым і кідаць кожнае пытанне не развязаным і не даведзеным да канца, — заявіў журналістам генеральны дырэктар „Бабушкиной крынки" Ігар Кананчук, адказваючы на пытанне аб магчымым правале праекта. — Калі не пойдзе ў гэтай галіне, то паглядзім у іншай. Але наша глыбокае перакананне ў тым, што права на жыццё ён мае. І я не ведаю, што неабходна для таго, каб упэўніцца ў адваротным".

Слухаць такія прамовы свядомаму беларусу больш чым прыемна, але, як кажуць, „дай Бог чутае бачыць".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы БЕЛАРУСІ

### „Наша ніва"

Здаецца, няма ў гісторыі іншых народаў такога храналагічнага перыяду, які быў бы сфармуляваны назвай друкаванага выдання. У беларусаў ёсць такі часавы адрэзак, які ўвайшоў у гісторыю нацыі як „нашаніўскі". Так сталася, што пачатак XX ст., на які прыпалі фармаванне беларускай свядомасці, праявы нацыянальнага руху ў розных формах, атрымаў найменне гэтай легендарнай газеты.

Выдавалася „Наша ніва" ў беларускай старажытнай сталіцы Вільні з лістапада 1906 г. амаль да восені 1915 г. Яе выхад спыніў толькі прыход фронту першай сусветнай вайны. „Наша ніва", як і яе папярэдніца „Наша доля", была органам нелегальнай арганізацыі, першай беларускай партыі — Беларускай сацыялістычнай грамады.

Нашаніўская пара была часам гістарычнага злому і вялікіх надзей. Прыблізна як дзевяностыя гады таго ж стагоддзя, куды больш прыбліжаныя да нашых дзён. За час выдавання газеты рэдакцыя змяніла нямала адрасоў. Амаль усе гэтыя будынкі захаваліся да нашага часу. Некалькі з іх размешчаны на былой вуліцы Завальнай (сучасная Pylimo). Адзін з такіх будынкаў — даўні палац графаў Тышкевічаў. Моцна выступаючы балкон гэтага будынка падпіраюць фігуры двух атлантаў — таму сучаснікі называлі яго „дом пад балванамі". Ходзячы па вулках старой Вільні, якая захавала аўтэнтычнасць, стараешся ўявіць яе насельнікаў сто гадоў таму, канкрэтных асоб нашай мінуўшчыны. Колькі цікавых дакументальных, ды і мастацкіх стужак можна было б зняць на гэтай архітэктурнай „натуры"!

Аснову рэдакцыйнага ядра складалі браты Луцкевічы і Аляксандр Уласаў, які ўжо з пятага нумара быў пазначаны як выдавец. Лёс кожнага з іх быў трагічным. Іван Луцкевіч памёр заўчасна ў Закапанэ, яго родны брат Антон і Аляксандр Уласаў загінулі ў савецкіх канцлагерах... Папрацавалі ў „Нашай ніве" і Якуб Колас, і Янка Купала, і Вацлаў Ластоўскі, і Цётка, і Вацлаў Іваноўскі, і многія іншыя, знакамітыя ўжо пасля смерці беларускія творцы і дзеячы. Працавалі ўсе пералічаныя, як правіла, на энтузіязме, апантаныя беларускай ідэяй, шчаслівыя магчымасцю рабіць справу, у якую верылі. У некаторых месцах рэдакцыя газеты рабілася куды шырэйшым асяродкам, суседнічала з выдавецтвамі і кнігарнямі. Некаторыя з „айцоў" газеты і жылі ў гэтых памяшканнях. Жылі беднавата, харчаваліся надзвычай проста, але знаходзілі сілы і час на каханне, сяброўства з выпіўкай, дасціпныя жарты. Пра нашаніўскую пару захаваліся некаторыя ўспаміны сучаснікаў і самых выдаўцоў, якія перадаюць тую атмасферу. Выданне „Нашай нівы", яе вострая крытыка ў адрас дзяржавы, былі не даспадобы тагачасным уладам. Рэдакцыя мусіла некалькі разоў плаціць штрафы, а Уласаў у 1910 годзе быў нават зняволены ў турму.

У наш час, у 1992 годзе, пачало выходзіць факсімільнае выданне „першай беларускай газеты з рысункамі". Такім чынам легенда беларускага перыядычнага друку стала даступнай не толькі архівістам. Змест той, гістарычнай „Нашай нівы", кожны нумар якой выдаваўся на васьмі старонках у не менш легендарнай друкарні Марціна Кухты, у многім здаецца досыць наіўным, мова дзіўнай і момантамі недарэчнай. Але колькі ў ёй шчырасці і мэтнасці. Невыпадкова яна была, кажучы сучаснай мовай, такой інтэрактыўнай, мела за ўвесь час выхаду больш трох тысяч сталых і аднаразовых карэспандэнтаў, столькі водгукаў, шмат падпісчыкаў з розных куткоў Беларусі. „Наша ніва" задала старт айчыннай журналістыцы і дагэтуль застаецца шляхаводнай зоркай на небасхіле беларушчыны.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Уладзімір СІДАРУК

# Экуменічная куцця

18 снежня 2011 г. у Гарадскім цэнтры культуры ў Кляшчэлях была арганізавана экуменічная куцця. Арганізатарамі выступілі мясцовы самаўрад і Гарадскі асяродак культуры. У мерапрыемстве ўдзельнічала каля шасцідзесяці чалавек, у тым ліку запрошаныя госці — ксёндз Ян Красоўскі, а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, прадстаўнікі Грамадзянскай платформы Збігнеў Чарнэцкі і Веслаў Раковіч, трэнер вучнёўскага спартыўнага клуба „Ожэл” Эдуард Тэрэбун. Гасцей прывіталі дырэктар ГАК Лявон Алексяюк і бурмістр Ірэна Негярэвіч. З мастацкай часткай выступілі калектывы „Мікстуркі” і „Фантазія” з Кляшчэляў, „Вішанька-Чарэшанька” з Сухавольцаў, дзеткі з Бельска-Падляшскага („Гоготуха”), дуэт Віталь Саха з Тапаркоў і Валянціна Марціновіч з Краснага Сяла ды калектыў „Родына” з Дубяжына. Выконваліся каталіцкія і праваслаўныя калядкі. Самадзейнікам і запрошаным гасцям былі ўручаны святочныя падарункі. Малечам быў арганізаваны конкурс. Удзельнікі мерапрыемства маглі пазнаёміцца з працамі пяцідзесяці сямі аўтараў, якія на выстаўцы „Колеры праваслаўя” запрэзентавалі 200 фатаграфій. Арганізатарам выстаўкі з’яўляецца інтэрнэтны сервіс „OrthPhoto”, а ганаровы патранат над праектам „Колеры праваслаўя” трымае прэзідэнт Рэчы Паспалітай Браніслаў Камароўскі.

Зачым прысутныя заселі да супольнай вячэры, святары пасвяцілі ежу, а госці падзяліліся аплаткай і просфарай. У час святочнага пачастунку голас узялі святары і госці. Спяваліся калядкі. Мерапрыемства праходзіла ў сардэчнай сямейнай атмасферы. Задбалі пра гэта арганізатары і для іх належацца словы прызнання.

# Помнікі даўніны

Едучы з Маліннік у Рыгараўцы, зараз пры дарозе, за агароджай, знаходзіцца помнік з таблічкай: „Miejsce spoczynku żołnierzy niemieckich z okresu I wojny światowej”. На гэтым жа помніку віднее іншы надпіс на нямецкай мове. Што ён сабою прадстаўляе, цяжка сказаць. Паасобныя словы вырытыя ў бетоне можна яшчэ прачытаць. Гэта, мабыць, прозвішчы загінуўшых. Паколькі няма магілак, таму нельга даць станоўчы адказ на пытанне, колькі тут захаваных астанкаў. Фактам з’яўляецца, што помнік устаноўлены быў немцамі ў час фронту і прастаяў амаль сто гадоў. За добраўпарадкаваннем могільніка згодна закону аб увекавечанні месцаў злачынства і пакуты пахадайнічала Арлянская гміна. Падобны могільнік знаходзіцца ў кузаўскім лесе пры дарозе ў Ракітыны. І гэтае месца акуратна задбана. Клапоцяцца пра гэта мясцовыя школьнікі ды Гмінная ўправа ў Чаромсе. **(УС)**

Нямецкі могільнік каля Рыгараўцаў

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — іспанскую пагаворку.

1. тлушч з насення раслін = 16 _ 18 _ 19 _ 17 _;
2. адчуванне фізічнай або маральнай пакуты = 3 _ 9 _ 8 _ 6 _;
3. паліва для газавай лямпы = 11 _ 14 _ 7 _ 22 _;
4. дзяржаўная грашовая дапамога ўстановам і арганізацыям = 25 _ 24 _ 29 _ 30 _ 5 _ 4 _ 23 _;
5. вялікая якуцкая рака = 27 _ 10 _ 15 _ 28 _;

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

6. вузкая доўгая шчыліна паміж бярвёнамі = 26 _ 2 _ 1 _;
7. вельмі ціхая гутарка= 21 _ 12 _ 20 _ 13 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Турцыя, Куляшоў, афіша, сто, прычэп, прыбой, траціна, арган, Бельцы, тры, арабеска, сонца, баян, прыз, Асвея, воз, вал, Сеул, рай, эвакуацыя, боб, арол, мысль, паланізацыя, Каін, німб, палата, эгаізм.

Рашэнне: **Я прыйшоў, ты рабі што трэба, расцалуй або прагані, або выплаві з мяне срэбра на сваім залатым агні**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 08.01 — 14.01

**(22.03. — 20.04.)** Добра будзе табе з людзьмі, якіх ведаеш ад гадоў. Калі ў тваёй пары штосьці скрыгоча, падумаеш мо нават аб змене (новае не мусіць значыць лепшае!). Не занядбоўвай фізічнай актыўнасці, прынамсі шпацыруй. 11-15.01. будзеш разважны, нічога не папсуеш.

**(21.04. — 21.05.)** Не абяцай больш чым можаш зрабіць, каб пасля не заслужыць на абвінавачанне ў абмане і нашкодзіць свайму фінасаваму і сацыяльнаму становішчу. Зачыні дзверы перад тымі, хто хоча адняць у цябе твой каштоўны час і пакарыстацца тваёй прыхільнасцю. Калі ведаеш, што пра цябе хтосьці пляткуе, а маеш яго на фатаграфіі, зашый яму на фотцы рот шэрай ніткай! У суботу добра пералічвай здачы.

**(22.05. — 22.06.)** Файны тыдзень, поўны кароткіх паездак, моцных эмоцый і бурлівых выказванняў пачуццяў. Магчымая кардынальная змена тваіх жыццёвых інтарэсаў. Серада добрая для завяршэння даўно пачатых спраў і развітання з непатрэбшчынай. Нічога не пазычай у выхадныя — бо аддасі праз год дзесяць раз больш. У суботу не насі цяжкага.

**(23.06. — 23.07.)** Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на важнае для цябе пытанне. Зможаш знайсці правільны выхад і пазбыцца шматлікіх праблем. У панядзелак магчымая фінанасавя страта. У сераду не здароўкайся ў руку з барадачамі. Змены пойдуць табе ў карысць. 9.01. усвядоміш, што не ўсе жадаюць табе дабра.

**(24.07. — 23.08.)** Добры час на мерапрыемствы, дзе найбольш людзей. Удача спадарожнічае табе ва ўсім. Чым больш актыўныя гэтыя дні, тым больш карысці будзеш мець у будучыні. У панядзелак прыйдзецца камусьці памагчы. У сераду будзь асцярожным з бытавой хіміяй. 11-15.01. можаш шмат зарабіць.

**(24.08. — 23.09.)** Варушыся ў агульным патоку, не праяўляючы асаблівай ініцыятывы. Не шукай новых прыбыткаў, бо можаш страціць. Калі ў сераду табе да поўдня дарогу перабяжыць чорны кот справа налева — чакай бяды, а калі злева направа — твае ранейшыя беды мінуць (пасля поўдня — наадварот); для ўмацавання добрай прыкметы плюнь кату ўслед, а каб пазбегчы бяды — тры разы сабе праз левае плячо. Усё ж 6-10.01. — дасканалы настрой і адвага ў кантактах, хоць 7-11.01. будзеш нервовы.

**(24.09. — 23.10.)** 8-12.01. вакол цябе кружыць будуць злосныя людзі. Энергія космасу падтрымае твае планы ў перамене спосабу жыцця. Пазбудзешся непатрэбшчыны, людзей, якія ўносяць хаос. У сераду шанц сустрэчы з уплывовымі людзьмі. У чацвер карысныя сустрэчы са старэйшымі. Шчасцю выходзь насустрач і дзейнічай.

**(24.10. — 22.11.)** Мітусня вакол бытавых спраў можа прынесці шкоду твайму здароўю. У сераду будзь вельмі акуратным на вуліцы. У чацвер асцерагайся прастуды. У пятніцу смела распараджайся сваімі грашыма. У суботу не выносЬ смецця (каб не разнесці па свеце хатніх спраў). 11-15.01. прыспешыцца шмат спраў і прыйдуць цікавыя інфармацыі.

**(23.11. — 22.12.)** Да 10.11. удачы ў юрыдычных, гандлёвых справах і бізнесе. Прымірэнне пасля спрэчак (гэта ты зрабі першы крок). Маеш шанц пераканаць усіх да сябе. На працы: дзе двух б’ецца — трэці карыстае. У аўторак будзь вельмі асцярожным — парэзацца можаш нават лістком паперы! У сераду атрымаеш прапанову; не прымай яе без аглядкі. У пятніцу не купляй нерухомасці.

**(23.12. — 20.01.)** Ад 8.01. (аж да 27.01.) аформіш кожную справу, справішся з хвастамі, наладзіш сардэчныя кантакты (таксама ў прафесійным плане). 11-15.01. гарантуецца табе поспех у інтарэсах і шанц на вялікія грошы.

**(21.01. — 19.02.)** 7-11.01. не кідайся ў глыбокую ваду з планамі, не вырашай важных спраў. З 14.01. (да 18.01.) магчымыя праблемы на працы. Не распавядай аб сваіх планах. У сераду пазбягай новых знаёмстваў. Нечаканая вестка ў пятніцу.

**(20.02. — 21.03.)** Адпачывай, медытуй і расслабляйся. Да 9.01. не будзеш мець падстаў да ніякіх турбот. Венера з 14.01. напоўніць цябе радасцю. У чацвер не зрабі элементарнай памылкі, якая вельмі зашкодзіць табе ў фінансах. У суботу канчай найважнейшае і выкінь непатрэбнае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

*Праваслаўны святар протаіерэй Павел Лысуха (1892-1954) 27 гадоў адслужыў у Свята-Мікалаеўскім кафедральным саборы ў Беластоку. Я вырашыў сёння згадаць пра гэтага чалавека, беларуса, майго земляка са Слонімшчыны. Тым болей, што большую частку свайго нядоўгага жыцця ён пражыў на Беласточчыне.*



На пярэднім плане — бацькі Паўла Лысухі, пачатак XX ст.





У Свята-Мікалаеўскім кафедральным саборы, дзе служыў протаіерэй Павел Лысуха, пачатак 1950-х гадоў

Сяргей ЧЫГРЫН

# Праваслаўны святар Павел Лысуха



Протаіерэй Павел Лысуха ў дамавіне, 5 мая 1954 г.

Напісаць мне пра Паўла Лысуху прапаноўваў пры жыцці беларускі праваслаўны дзеяч на эміграцыі Барыс Данілюк (1923-2011). Спадар Данілюк пісаў, каб я абавязкова сабраў звесткі і напісаў артыкул пра Паўла Лысуху. У адным са сваіх лістоў Барыс Данілюк паведамляў, што Павел Лысуха меў братоў Мікалая, Серафіма, Аркадзя і сястру Тэклю. „Тэкля была замужам за маім дзядзькам Пракопам з вёскі Сурынка Слонімскага павета. Наймалодшы брат Аркадзь быў кульгавы, але падвучыўся царкоўным спевам і ў 1930-х гадах аж да вайны быў дзякам ва ўніяцкай місіі ў Альбярціне пад Слонімам. Жонка айца Паўла паходзіла, здаецца, з Жыровічаў. У 1930 годзе, калі мы жылі ў вёсцы Шчара на Слонімшчыне, яны прыязджалі нас адведваць. Пра лёс іншых братоў Паўла Лысухі і іх сем'і нічога не ведаю", — пісаў Барыс Данілюк.

І вось я пачаў пошукі. Спачатку завітаў на радзіму Паўла Лысухі — у вёску Сурынка Слонімскага раёна. Звярнуўся да настаяцеля храма святога прарока Ільі ў вёсцы Сурынка айца Генадзя Логіна. Айцец Генадзь паабяцаў дапамагчы, бо ён чуў пра Паўла Лысуху, а ў вёсцы Сурынка амаль палова яе жыхароў маюць прозвішча Лысуха. І праўда, праз некалькі дзён айцец Генадзь мне патэлефанаваў і сказаў, што ў вёсцы жыве пляменнік Паўла Лысухі, Уладзімір.

Уладзімір Лысуха жыве адзін. Жонка памерла пяць гадоў таму. Прыгадваючы яе, стары чалавек заплакаў. Але потым супакоіўся і пачаў распавядаць пра айца Паўла Лысуху. „Павел Лысуха — мой родны дзядзька, бацькаў родны брат. Я трохі памятаю яго. Ён жыў і служыў у Беластоку, да нас у Сурынку прыязджаў рэдка. Але калі гасцяваў на Бацькаўшчыне, то любіў пасядзець у агародзе каля жыта. Ён садзіўся на табурэтку і доўга глядзеў, як каласуе жыта. І ўсё нешта думаў. У мяне ў памяці гэта засталося на ўсё жыццё", — пачаў распавядаць Уладзімір Лысуха.

— А вы чый сын? — пытаюся ў спадара Уладзіміра.

— Я — сын Мікалая Лысухі, роднага брата Паўла. Іх было чацвёра сыноў. Павел быў старэйшым. Зямлі было мала, таму, каб не дзяліцца з братамі і не спрачацца з-за зямлі, Павел пакінуў вёску і паехаў у Беласток. Ажаніўся. У іх была дачка Раіса. Але яна ўжо таксама памерла ў Беластоку.

— А вы ў царкву ходзіце?

— Вядома ж. Мне і бацюшка наш паведаміў, што вы шукаеце сваякоў Паўла Лысухі.

— Якім яшчэ вам запомніўся дзядзька Павел?

— Я памятаю мала, бо бачыў яго рэдка. Але ведаю, што ён яшчэ добра іграў на скрыпцы. Наогул, дзядзька Павел быў вельмі таленавітым чалавекам.

— Сумна вам, Уладзімір Мікалаевіч, аднаму?

— Так, сумна...

З Сурынкі — роднай вёскі Паўла Лысухі, мой шлях ляжаў у Слонім да ўнучкі Уладзіміра і праўнучкі Паўла Лысухаў — Наталлі. Спадарыня Наталля захавала некалькі здымкаў Паўла Лысухі, якія сёння друкуюцца. Яна ведала, што яе прадзед быў вядомым у Беластоку святаром, але больш пра яго нічога не чула.

Павел Лысуха нарадзіўся ў вёсцы Сурынка Слонімскага павета ў звычайнай беларускай, сялянскай сям'і. Сям'я была бедная, таму пра вучобу хлопчыка і размовы быць не магло. Але Паўлік хацеў вучыцца, найперш у Жыровіцкім духоўным вучылішчы. Толькі ў Жыровічы, якія знаходзіліся недалёка ад яго роднай вёскі, паступіць не атрымалася. Тады хлопец паступае ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Праўда, там правучыўся толькі два гады і пакінуў вучобу. Ён становіцца слухачом пеўча-рэгенцкіх курсаў у Гродне, якія скончыў у 1912 годзе.

Пасля заканчэння курсаў у Гродне Павел Лысуха працуе псаломшчыкам-рэгентам у прыходзе вёскі Востраў Сакольскага благачыння. Але працаваць доўга не давялося, бо пачалася Першая сусветная вайна. Малады святар вяртаецца на радзіму. І толькі пасля вайны атрымлівае пасаду псаломшчыка-рэгента ў прыходзе Старадзявяткавічы Слонімскага павета. У 1923 годзе Паўла Лысуху пасвячаюць у сан дыякана і ён прызначаецца для служэння ў царкве ў мястэчку Рось (цяпер Ваўкавыскі раён — С. Ч.).

Праз чатыры гады айцец Павел па запрашэнню настаяцеля Свята-Мікалаеўскага кафедральнага сабора пераязджае на дыяканскую службу ў Беласток. У 1940 годзе протадыякан Павел Лысуха прыязджае ў Жыровічы. Там яго архіепіскап Панцеляймон (Ражноўскі) асвячае ў сан прасвітара і прызначае вікарным святаром Свята-Мікалаеўскага кафедральнага сабора ў Беластоку.

27 гадоў служыў айцец Павел Лысуха ў саборы. За гэты час амаль увесь праваслаўны люд Беластока добра ведаў святара. Вернікі вельмі паважалі і любілі айца Паўла за яго ціхі, спакойны характар, за пастаянную цеплыню сэрца, за набожнае і праніклёнае правядзенне царкоўных службаў. Ён даслужыўся ў Беластоку да протаіерэя.

Але жыццё протаіерэя Паўла Лысухі было нядоўгім — ён пражыў няпоўныя 62 гады. Яго не стала 5 мая 1954 года. Протаіерэй Вячаслаў Рафальскі ў „Церковном вестнике" ў 1954 годзе пісаў, што тры дні праваслаўныя вернікі Беласточчыны развітваліся з Паўлам Лысухам. На паховінах яго, пісаў протаіерэй Рафальскі, было „много венков, утопающий в цветах катафалк, сонм духовенства во главе с Высокопреосвященным архиепископом Тимофеем и множество народа — это редкая и поучительная была картина".

Гэтая невялікая зацемка няхай будзе данінай светлай памяці праваслаўнага беларуса Паўла Лысухі.



Родны пляменнік Паўла Лысухі, Уладзімір Лысуха, з фотаздымкам бацькі, снежань 2011 г.



Храм святога прарока Ільі ў вёсцы Сурынка Слонімскага раёна, на радзіме протаіерэя Паўла Лысухі

ISSN 0546-1960